ЛІТАРАТУРА
І МАСТАЦТВА

# ЛіМ

ГАЗЕТА
ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ
БЕЛАРУСІ

6 сакавіка 1998 г. № 10/3938 Кошт 4 000 руб.



### БУДЗЬМА РАЗАМ!

Шаноўныя чытачы! 10 сакавіка заканчваецца падпіска на наш тыднёвік на другі квартал 1998 года. Спадзяёмся, што Вы не забыліся схадзіць на пошту, каб працягнуць падпіску на "ЛіМ"... Кошт падпіскі на адзін месяц — 15 тысяч рублёў, на квартал — 45 тысяч рублёў.
**Наш індэкс — 63856.**

# Са святам, дарагія!



*Ўзноў вясна*
*абуджана каханнем*
*І ўсмешкамі*
*асветлена жанчын.*
*З букетам руж спяшаем*
*на спатканне,*
*Не заўважаем*
*над зямлёй хмурын.*

*І, як заўжды,*
*спазняецца жанчына,*
*Хоць і заўжды прыходзіць,*
*як свята,*
*Жыць без якога сёння*
*немагчыма,*
*І без якога б*
*свята не было...*

ПАДЗЕІ

# Вітаем вясну!

Напраўду, вясна пачынаецца ў сакавіку. Яе абвясцілі, прынамсі, філарманічныя афішы. Пра яе гаварылі ўдзельнікі прэс-канферэнцыі, што адбылася днямі ў Беларускай дзяржаўнай філармоніі. Гаварыць ёсць пра што, бо "Франка-беларуская музычная вясна" — зусім новая з'ява ў нашай культурніцкай атмасферы. І спарадзіў гэтую з'яву, паводле вобразнага вызначэння французскага віяланчэліста Жэрома Перно, удар восеньскай маланкі...

Праўда, радца па культуры, навуцы ды супрацоўніцтве Пасольства Францыі на Беларусі Франсуа Ларан звярнуў увагу на тое, што прэм'еры сёлетняй акцыі папярэднічала трохгадовае плённае існаванне французска-беларускіх артыстычных сезонаў, падчас якіх ладзіліся ў Мінску выступленні гасцей-музыкантаў. Аднак шляхі гастрольныя — рэч невытлумачальная. Ці думаў Жэром Перно, завітаўшы ў кастрычніку 97-га з канцэртам у Мінск, што не міне і паўгода, як ён вернецца сюды — з пачэснай місіяй чынніка новай культурніцкай акцыі!

Сапраўды, той восенню ён адчуў нібыта ўдар маланкі, пасля якога захацелася супрацоўнічаць, сустракацца, разам ствараць. Што ж гэтак уразіла нашага госця? Надзвычай цёплы, сяброўскі прыём публікі ды калег. Знаёмства з юнымі віяланчэлістамі — выхаванцамі класа Уладзіміра Перліна ў каледжы пры Беларускай акадэміі музыкі, з іхнім педагогам. І нарадзілася ідэя — наладзіць не проста абмен культурнымі набыткамі, а жыццядольны перспектыўны праект, дзякуючы якому беларускія ды французскія музыканты як мага больш кантактавалі б у "закуліснай" абстаноўцы, побач жылі, разам займаліся.

Ініцыятарамі "Франка-беларускай музычнай вясны" называюць трох энтузіястаў: спадароў Ларана, Перно ды М. Каца — галоўнага дырыжора Акадэмічнага сімфанічнага аркестра Беларусі, грамадзяніна Францыі, для якога праца ў нашай краіне набывае ўсё больш важкае значэнне. Ідэя падтрымана Беларускай дзяржаўнай філармоніяй, Міністэрствам культуры Беларусі, Рэспубліканскім каледжам пры Акадэміі музыкі, Французскай асацыяцыяй артыстычнай дзейнасці Міністэрства замежных спраў Францыі, асацыяцыяй "Фон дэ куліс" (прыблізны пераклад — "Паза кулісамі"), суполкай "Сябры Трыо Шастаковіча".

Такім чынам, сёння, 6 сакавіка, у Вялікай зале сталічнай філармоніі сімфанічны канцэрт пад кіраўніцтвам маэстра Каца. Наступныя вечары абяцаюць сустрэчы з камернай музыкай у выкананні інтэрнацыянальных ансамбляў: віяланчэліст Жэром Перно ды піяніст Цімур Сергіеня; віяланчэліст Жэром Перно, альтыстка Інэс Карсанці ды піяніст Юры Гільдзюк і скрыпачка Лідзія Дабржынец. Дзяржаўны камерны аркестр Беларусі рыхтуе праграму пад кіраўніцтвам Мішы Каца з салістамі Жэромам Перно ды Жэромам Дзюкро — піяністам, які, дарэчы, будзе граць і сольны канцэрт.

13 сакавіка ў каледжы пры Акадэміі музыкі выступяць юныя выхаванцы класа Уладзіміра Перліна — Аляксей Кісялёў, Уладзімір Сінькевіч ды Георгій Анішчанка. Гэта — заключны канцэрт у Мінску, але не заключная імпрэза "Вясны". Беларускія віяланчэлісты-віртуозы разам са сваім настаўнікам паедуць у Францыю, дзе прабудуць да канца сакавіка.

А пакуль — павітаем надыход "Франка-беларускай музычнай вясны". І настроімся на сустрэчу з творамі Баха, Моцарта, Шуберта, Стравінскага, Брытэна, Дэбюсі, Фарэ, Месіяна... Спіс кампазітараў, чые імёны пазначаныя на афішах фэсту, даволі ёмісты і варты ўвагі пераборлівых.

**С. БЕРАСЦЕНЬ**

ФАКТ

# Мінск і Ліён: разам у XXI стагоддзе

Беларусь і Францыя, а дакладней Беларускі харэаграфічны каледж і Ліёнская кансерваторыя падпісалі пагадненне аб супрацоўніцтве. Гэтай падзеі папярэднічала двухтыднёвая праца Філіпа Каэна, дырэктара факультэта харэаграфіі прыгаданай кансерваторыі ў нашым каледжы. Плён агульнай справы мы адчуем ужо ў бліжэйшы час. У траўні на справаздачным канцэрце выпускнікі каледжа пакажуць балеты, створаныя разам з Філіпам Каэнам. Потым будуць стажыроўкі ў Ліёне выкладчыкаў і навучэнцаў каледжа. У адказ — Беларусь прыме ліёнцаў. Будзе абмен вопытам паміж вядучымі спецыялістамі Беларускага каледжа і Ліёнскай кансерваторыі.

Праект разлічана рэалізаваць да канца 2000-га года. Але калі справа пойдзе, ён будзе мець працяг і ў XXI стагоддзі.

**Н. К.**



*На здымку: у момант падпісання дамовы.*

АНОНС

# Сустрэча з "Тытанікам"

7 сакавіка ў кінатэатры "Кастрычнік" пройдуць першыя сеансы славутага фільма Джэймса Кэмерона "Тытанік" (1997 г.). Дзякуючы Мінгарвыканкаму мінскія гледачы, напэўна, упершыню ўбачаць "завочнага" прызёра "Оскара-97". Сёлета фільм "Тытанік" прэтэндуе аж на чатырнаццаць узнагарод Амерыканскай акадэміі кінамастацтваў...

Фільм Д. Кэмерона — самы дарагі кінапраект Галівуда. Не кожны рэжысёр адважыўся б зноў пабудаваць "карабель-мару" — "Тытанік"! Д. Кэмерон зрабіў гэта... для людзей. Як напамін, што гордасць ("І сам Бог не зможа патапіць нас!") ніколі не паможа Каханне.

Паказ фільма працягнецца да 22 сакавіка.

# Крок у неба — і свет пераменіцца

Другі Міжнародны фестываль дзіцячых і юнацкіх тэатраў, які адбудзецца ў Мінску з 24 па 30 сакавіка, мае назоў "Крок у неба" і дэвіз "Зменіся і свет пераменіцца". (Нагадаем, што першы фестываль Мінск прымаў у студзені 1996 года.) Фундатар фестывалю — тэатральнае прадпрыемства "Рондстудыя" пры ўдзеле Міністэрства культуры Беларусі і Фрунзенскага райвыканкама Мінска.

Пляцоўкі Дзяржаўнага тэатра лялек, Тэатра юнага гледача і Нацыянальнага цэнтра дзіцячай творчасці прымуць дзіцячыя і юнацкія тэатры з Беларусі, Расіі, Прыбалтыкі, Польшчы, Германіі. У рамках фестывалю будуць арганізаваны творчыя лабараторыі, а таксама "круглы стол" "Чалавек — частка Сусвету. Сусвет — частка Чалавека", — з абмеркаваннем пытанняў фармавання асобы дзіцяці з умовай яе творчага ўдзелу ў спектаклях.

ВІНШУЕМ!

# "Полымя" назвала лаўрэатаў

Рэдакцыйная калегія часопіса "Полымя" прысудзіла прэміі за лепшыя творы, апублікаваныя летась на старонках старэйшыны сярод нацыянальных літаратурна-мастацкіх выданняў.

Лаўрэатамі "Полымя" сталі: В. Казько — за аповесць "Да сустрэчы...", Г. Багданава — за "Паганскія экспрэсіі", Г. Дубянецкая — за вершы, І. Шаблоўская — за артыкул "Чэшская літаратура: блізкая і далёкая", Г. Юрчанка — за артыкул "Народнае параўнанне", А. Пяткевіч — за рэцэнзію "Галоўная кніга Ніла Гілевіча".

**Н.К.**

АБСЯГІ

*БРЭСТ...*

## "Берасцейскае вогнішча"

Мясцовыя кнігавыдавецтвы наладзілі выпуск серыі літаратурных выданняў "Берасцейскае вогнішча". Першай у гэтай серыі выйшла кніга паэзіі Алеся Каско "45". Чытачы атрымалі таксама і вершаваны зборнік Алеся Паплаўскага "Спынены лістапад". На падыходзе яшчэ некалькі кніг. У тым ліку і зборнік анталогіі сучаснай берасцейскай паэзіі, укладальнікам і рэдактарам якога стаў Мікола Пракаповіч.

**Сымон АКСЕНІН**

*ВІЦЕБСК...*

## Класіка поруч з рокам

Тры дні запар Віцебск вітаў вядучых гітарыстаў краіны, якія сабраліся на XI фестываль "Менестрэль". У ім удзельнічаў класічны квінтэт з Масквы пад кіраўніцтвам Наталлі Івановай-Крамской, унучкі вядомага кампазітара. Апрача камерных канцэртаў, госці і ўдзельнікі фестывалю мелі магчымасць паслухаць і віртуозную гітару рок-музыканта Віктара Зенчука.

## "Чорны квадрат" — на вуліцах

Днямі ў горадзе праведзена акцыя, прысвечаная 120-годдзю з дня нараджэння мастака-рэфарматара Казіміра Малевіча. Ад музея Шагала, дзе адкрыўся вернісаж творчага аб'яднання "Квадрат", да мастацкага музея, дзе распачала работу выстава "Супрэматычная графіка Давіда Якерсона", мастакі кацілі чорны квадрат. Першая акцыя дзеля вяртання Віцебску імя стваральніка супрэматызму прайшла яшчэ дзесяць гадоў таму. Зараз у нефармальнае аб'яднанне "Квадрат" увайшло ўжо сем мастакоў.

У траўні бягучага года ў горадзе мяркуецца праведзенне міжнароднай канферэнцыі, прысвечанай памяці Малевіча.

## Шагал вяртаецца на радзіму

Уладальнік прыватнай галерэі ў Швейцарыі Гюнтэр Камоцкі летась, калі Віцебск святкаваў 110-годдзе з дня нараджэння Марка Шагала, падараваў віцьблянам некалькі літаграфій Майстра. Зараз зноў гатовы на шырокі жэст. Спадар Камоцкі ў красавіку прывязе ў дар Віцебскаму музею Шагала некалькі літаграфій і афортаў.

**Святлана ГУК**

*ГРОДНА...*

## З днём нараджэння, газета!

Выдавалася ў Гродне газета "Инфо-биржа". А тут з'явілася і яшчэ адна: "Биржа информации". Ляжаць яны ў кіёсках побач. Купіла я першы нумар "Биржи информации", якая выйшла 26 лютага. Рэдактар Алена Раўбецкая ў рэдакцыйнай калонцы тлумачыць, што новую газету пачалі выдаваць тыя, хто працаваў у старой, — так вось узялі і выйшлі ўсім творчым складам з адной газеты і самі стварылі другую.

Мне першы нумар "Биржи информации" спадабаўся. Газета двухмоўная. У ёй ёсць усё, але болей пра эканоміку, банкі, цэны. Добра аформлена старонка рэкламы. Адразу відаць, што зрабілі нумар прафесійныя газетчыкі: з густам размеркаваны рубрыкі, падабраны шрыфты, фотаздымкі. Газета на васьмі старонках. Ёсць асобная ўкладка з праграмай тэлебачання.

На чацвёртай старонцы пад рубрыкай "Страчаная спадчына" артыкул Алеся Краўцэвіча "Храм радасці, ці Божа, уратуй Каложу!" Гэты артыкул робіць газету гістарычнай. Аўтар з сумным спакоем апавядае пра пакутны лёс нашай найстаражытнейшай царквы, найпрыгажэйшай у свеце, якая, абароненая Богам, прастаяла з XII стагоддзя да нашых дзён. А цяпер яе разбурае сама... царква. На вачах у збянтэжаных гродзенцаў святары там праводзяць паравое ацяпленне, чапляючы батарэі на металічныя кліны, глыбока ўкалочаныя ў муры XII стагоддзя...

У мяне сёння з'явілася маленькая надзея, што ў Гродне нарэшце пачала выходзіць газета, якую я буду чытаць з прыемным хваляваннем. Каб жа так і было.

**Алена ГАЙКО**

*ГОМЕЛЬ...*

## Мастак з Веткаўшчыны

Чарговая, 17-ая па ліку персанальная выстава работ мастака Пятра Шалюты праходзіць у абласным цэнтры народнай творчасці. З 1969 года Пётр Яфімавіч — пастаянны ўдзельнік абласных і рэспубліканскіх выстаў.

Мастаком марыў стаць з дзяцінства. Лёс у свой час распарадзіўся інакш — стаў Шалюта прафесійным ваенным. Але мара аб жывапісе не згасла. Ён, будучы афіцэрам, пісаў партрэты байцоў, пейзажы. Пасля дэмабілізацыі афармляў палацы культуры, залы прамысловых прадпрыемстваў.

— Больш за ўсё люблю маляваць прыроду, — прызнаецца мастак. — Відаць, таму, што дзяцінства прайшло ў адной з вёсак Веткаўскага раёна... Хачу, каб тыя, хто будзе жыць пасля нас, убачылі прыгажосць роднага краю. Ніякі Чарнобыль не ў сілах умярцвіць нашу прыроду, яе хараство...

## Вечарына дружбы

У абласным музеі больш за месяц экспанавалася выстава "Дэкаратыўна-прыкладное мастацтва Кітая". З самабытнай творчасцю пазнаёміліся многія гамяльчане.

Днямі кітайскія студэнты, што навучаюцца ў Гомельскім дзяржуніверсітэце, наладзілі вечарыну. Госці, якія былі запрошаны ў музей, пазнаёміліся з кітайскімі звычаямі і традыцыямі, палітычнай і эканамічнай сітуацыяй у краіне.

Гучалі на вечарыне песні на кітайскай, беларускай і рускай мовах. Удзельнікі вучыліся напісанню іерогліфаў, адведалі нацыянальныя стравы.

## Дабрачынныя спектаклі

Штомесяц па ўсталяванай ужо традыцыі абласны драмтэатр дае дабрачынныя спектаклі для ветэранаў вайны і працы. Арганізацыю і фінансаванне гэтага мерапрыемства ўзяла на сябе партыя народнай згоды. А пачалося ўсё 9 траўня 1995 года, з дня святкавання 50-годдзя вялікай Перамогі.

З кожным разам на спектаклі прыходзіць усё больш і больш ветэранаў. Яны не толькі дакранаюцца да мастацтва, але і маюць магчымасць сустрэцца з сябрамі, проста адпачыць.

**Уладзімір БАБКОЎ**

*МАГІЛЁЎ...*

## Мужчына года

У палацы культуры "Хімвалакно" адбылася шоу-праграма фінальнага конкурсу "Мужчына года-98", арганізаваная абласным камітэтам саюза моладзі. На сцэне сустрэліся 9 прэтэндэнтаў з розных куткоў вобласці, якія з імпэтам змагаліся за права называцца мужчынам года.

Тытул гэты аднадушна быў прысуджаны студэнту Магілёўскага тэхналагічнага інстытута Аляксею Фёдараву. Сяргей Палітаеў з Бабруйска стаў Дон-Жуанам-98, а прыз сімпатый дастаўся Андрэю Радзькову з Магілёўскага раёна. Пад увагу пры гэтым браліся не толькі знешнія дадзеныя хлопцаў, але і іх уменне паводзіць сябе, інтэлігентнасць, пачуццё гумару.

## Фотарэпартаж з "Краіны ілюзій"

Персанальная выстава вядучага фотамайстра Аляксандра Ліціна "Краіна ілюзій" адкрылася ў гарадскім музеі этнаграфіі. На выставе, якую дапамагалі арганізаваць асацыяцыя "Кола сяброў" і студыя "3 plas", прадстаўлена больш за 80 здымкаў, зробленых майстрам за апошнія гады.

## Новая праграма

Дзяржаўны ансамбль танца Беларусі пад кіраўніцтвам Валянціна Дудкевіча выступіў з новай праграмай "Вянок сяброўства". Яна прысвечана 40-годдзю стварэння калектыву.

## "Пасядзім" з "Хрыстафорам"

Сёмага сакавіка па запрашэнні абласной філармоніі да нас завітае тэатр сатыры і гумару "Хрыстафор" са сваім чарговым спектаклем "Добра сядзім!"

**Алесь ПЯТРОВІЧ**

***Раіса БАРАВІКОВА — пісьменніца непаўторная. Аўтарка адметных па мастацкай глыбіні вершаў, прозы, п'ес. Намесніца рэдактара часопіса "Алеся". Але не толькі... У першую чаргу яна прыгожая Жанчына, клапатлівая Маці, улюбёная Жонка... Гутарка з ёю адбылася напярэдадні сакавіцкага свята жанчын.***

# "На раздарожжы смутку і надзей..."



**— У чым, Раіса Андрэеўна, прызначэнне Паэзіі? Ці мяняецца яно з часам?**

— Тут можна сказаць вельмі шмат... Калі адштурхнуцца ад Паэта, — гэта частка ягонага жыцця, значыцца, і сама Паэзія — жыццё, толькі прыўзнятае, акрыленае, адухоўленае, праз Дух паэта. Кожны піша, як ён дыхае. Зноў жа, Ліра, лірнік... Што абуджаў апошні з іх, хто яго слухаў? Пэўна ж, пачуцці, адпаведныя ягоным песням. Паэт абуджае, заклікае, разварушвае думку, калі хочаце, выхоўвае эстэтычны пачатак у чалавеку, разуменне прыгожага... Усё тое ж пушкінскае: "...пачуцці добрыя я Лірай абуджаў". Вось яно і прызначэнне, і, у прынцыпе, з часам не мяняецца, але час можа накладваць свае адзнакі, адсюль і "лірыка ваеннага часу", і "Паэзія Адраджэння", калі пэўнае грамадства перажывае нейкі асаблівы духоўны ўзлёт. Шмат што залежыць ад індывідуальнасці, асобы самога паэта, ад яго творчага пачатку. Але паэту пра прызначэнне гаварыць цяжка, ён проста піша, сыходзячы са сваіх пачуццяў і здольнасцей... А пасля яшчэ адно...

*Прыемна мне, калі заплюшчу вочы,*
*Бо што б удзень пабачылі яны?*
*Цудоўны вобраз твой скрозь цемру ночы*
*Мне зіхатлівыя прыносяць сны.*

*Калі твой сцень і ноч перамагае,*
*Святлом барвовым разганяе змрок, —*
*Дык як жа ўдзень краса свяціла б тая,*
*Твой яснавейны, прамяністы зрок?..*

Радкі з 43-га санета Шэкспіра ў перакладзе Уладзіміра Дубоўкі пра цудоўны вобраз той, якую ён кахае. Што тут скажаш пра прызначэнне Паэзіі? Адно, што шэкспіраўскія пачуцці вось ужо колькі стагоддзяў хвалююць тых, хто чытае яго санеты. Неўміручая класіка па-за ўсімі часамі. І возьмем нядаўні час... савецкі і пралетарскую паэзію савецкага часу, з-за чаго разгарэлася палеміка ў "ЛіМе". Не стала таго часу, і асобныя вершы не ўпісваюцца ў новае жыццё, якое невядома да чаго выведзе. Значыцца, Паэзіі трэба быць проста Паэзіяй.

**— Творчасць, сям'я, праца... Як гэта ўсё сумяшчаецца ў адной жаночай душы?**

— У душы нармальна, тут можна знайсці гармонію. А ў побыце — цяжка. Застаецца толькі зайздросціць творцам-мужчынам. Мужчына — здабытчык, а жанчына — маці, гаспадыня... І ад апошняга ніякая творчасць не вызваліць. Але пра гэта не варта і гаварыць. Хіба прывяжаш паняцце "гаспадыня", маючы на ўвазе хатні побыт, да Жорж Санд? Гэта ўсё жыццё за кадрам, якое ніколі нікім не бярэцца ў разлік, дык што на гэтым засяроджвацца?

**— Вядома, "распракляты быт" іншым разам замінае. У чым, Раіса Андрэеўна, знаходзіце адхланне?**

— Не іншым часам замінае "распракляты быт", а штохвілінна. Вось і атрымліваецца, што "адхланне" — у творчасці, таму што да яе даводзіцца дарывацца, праз розныя камбінацыі, выкройваючы час... То ўгаворваеш сваіх сямейнікаў сысці на некаторы час куды-небудзь з дому, то прыкідваешся хворай, то проста ідзеш на адкрыты "канфлікт"... Гэта ўжо як атрымліваецца. Магчыма, у некага ўсё па-іншаму, але мае хатнія не адмаўляюцца ад вячэры толькі таму, што ў мяне якраз хвіліны натхнення. Куды б там ні ўзнасілася душа, а завіхацца на кухні трэба. Дапамагае транспарт... Я ледзь не гадзіну дабіраюся на працу ў рэдакцыю. Можна засяродзіцца, распрацаваць нейкі сюжэт для апавядання.

**— Адзін са сваіх вершаваных зборнікаў вы назвалі "Каханне". Што азначае яно для вас, Раіса Андрэеўна?**

— Відаць, хутчэй за ўсё гэта — прывід... То з'яўляецца, то знікае дзесьці далёка наперадзе. Мігціць і мігціць... Выключнага абсалютна няма ў прыродзе, тым больш з узростам... Калі і разгарыцца нейкая страсць, падсвядома разумееш, што "і гэта пройдзе". Нават з самым блізкім чалавекам пяройдзе ў штосьці іншае: прывычку, нешта накшталт сваяцкіх адносін. А вось прывід... Ён дазваляе ўвесь час быць у стане закаханасці. А закаханаму лёгка намаляваць і сустрэчу, і расстанне, захапленне і расчараванне. У большасці маіх вершаў пра каханне няма пэўных адрасатаў, ёсць прывід і фантазія — фантазія пачуццяў, наколькі дазваляе душа.

**— "Паэзія" — слова жаночага роду. Алаіза Пашкевіч... Яўгенія Янішчыц... Якія велічна адухоўленыя постаці ў нашай літаратуры. І ў той жа час пяшчотныя, ранімыя, а таму выключна трагічныя па лёсе сваім. Няўжо жанчына, абраўшы жыццёвым прызначэннем Творчасць, асуджае сябе на пакуты?**

— А мужчына ў творчасці на што сябе асуджае?! Не думаю... Так, слова "паэзія" жаночага роду, але ж слова "талент" мужчынскага. Вось адпаведна таленту трэба і ставіцца да жанчыны-творцы, толькі на роўных, адметнаючы жаночы пачатак у ёй. Ніводзін мужчына не прызнае, што жанчына можа быць надзелена большым талентам. Але ж, акрамя таленту, жанчына носіць у сабе і жаноцкасць... І гэты свет надзвычай складаны. Жанчына нарадзіла Бога і Жанчына спакусілася яблыкам ад Біблейскага Гада. У ёй больш Бога і Д'ябла, ніж у мужчыны. Яна больш глыбокая і разнастайная ў сваіх пачуццях. Трагедыя не ў пяшчотнасці і ранімасці, а якраз у падзеле ў Творчасці на мужчын і жанчын... Мужчыны прыдумалі, што Творчасць не жаночая справа, што гэта павінна быць абавязкова чымсьці непасільным для жанчын. Ну, а калі ўсё-ткі перадусім выносіць ранімасць, дык тут трэба гаварыць аб трагедыі асобнай душы, ад якой ніхто не застрахаваны.

**— Малюючы партрэт часу сённяшняга, якой вы бачыце будучыню?**

— Трагічнай... Вельмі шмат канфліктаў у чалавека: з прыродай, з сябе падобным, ды і з самім сабою. Страчаны духоўныя арыенціры.

**— Уявім, Раіса Андрэеўна, што вы — прэзідэнт Беларусі. З чаго б вы пачалі?**

— Мне ўявіць гэта цяжка. Я не грамадска актыўны чалавек, ува мне адсутнічае гэты пачатак. Але ж, калі б раптам... Напэўна, пачала б з Чалавека — ад якога і дабро, і зло, і праца, і эканоміка, і навука, і мастацтва... Дык вось з арганізацыі яго духоўна-маральнага аблічча. Той жа Талстой зазначаў, што цывілізацыя гіне тады, калі гіне мастацтва. У нашым жыцці шмат відовішчаў, а відовішча і мастацтва розныя рэчы. Ужо ёсць прыклад са старажытнасці... Вядомае "хлеба і відовішчаў!" прывяло Рымскую імперыю да заняпаду. Культура душы, культура побыту, культура паводзін... З гэтага б і пачала, з Адраджэння духу, якое магчыма пры квітненні Муз. Ну і само сабой зразумела, працавала б на Беларусь.

**— У якія чалавечыя якасці вы верыце?**

— Хацела б верыць у прыстойнасць... Наш час спарадзіў вялікую няшчырасць. Людзі кідаюцца ў шалёныя крайнасці... Вельмі хачу дачакацца пачатку наступнага стагоддзя, таму што ўсялякі пачатак нясе ў сабе надзею, спадзяванне. Калі ўзяць наша грамадства, яно семдзесят гадоў жыло без Бога. Бог падмяняўся ідэалогіяй, дзе мала было месца паняццю "Вазлюбі бліжняга". Бралася ў Дастаеўскага "прыгажосць уратуе свет" і адкідвалася ўмова, калі чалавек будзе маліцца, жыць па Божых законах. А ўвогуле, мне падабаюцца адкрытыя людзі, калі чалавек умее захапляцца і дараваць.

**— Інтэлігентны чалавек... Якім вы яго бачыце?**

— Пытанне для вельмі шырокай гаворкі. Сказаць адукаваны, культурны, — мала... Можна быць вялікім эрудытам і далёка не інтэлігентным чалавекам. Хутчэй за ўсё нейкая ўнутраная выхаванасць, тактоўнасць, далікатнасць сэрца і ўменне чуць іншых.

**— З гэтай нагоды як расцэньваеце сённяшняе становішча ў Саюзе пісьменнікаў?**

— Мы гаворым пра інтэлігентнага чалавека. І я магла б назваць шмат інтэлігентаў сярод нашых творцаў. А творчы саюз — гэта нешта іншае. На жаль, ён не змог даказаць грамадству, пры сённяшніх складаных умовах, што пісьменнік і ёсць той самы інтэлігент, носьбіт і ахоўнік духоўных скарбаў сваёй нацыі, свайго народа. Разгубленасць перад часам? Не ведаю...

**— Максім Танк у дзённіках пісаў, што "...гісторыя нашай крытыкі — гісторыя суцэльных недарэчнасцяў і памылковых фармулёвак, у якіх ніколі не ўкладвалася жывая літаратура..." Вашы адносіны, Раіса Андрэеўна, да літаратурнай крытыкі?**

— Відаць, вялікі паэт меў рацыю... Я ўжо пра гэта нядаўна пісала. Разгарніце школьныя падручнікі, як там напісана пра выдатнага паэта Максіма Танка. Чамусьці на першы план выносіцца не Паэзія, якая ставіць Танка побач з вялікімі постацямі ў літаратуры, а факт біяграфіі — падпольшчык заходнебеларускага падполля. Усё падпарадкоўвалася не чалавечаму, а ідэйнаму пачатку. Крытыка гэтага таксама не пазбегла. Размова ўсё той жа лімаўскай палемікі. Сам творца, не толькі Максім Танк, увогуле ніколі не паказваўся жывым чалавекам, якому ўласцівы і пад'ёмы, і творчыя крызісы, які і радаваўся, і пакутаваў, кахаў і памыляўся... Застаецца толькі спадзявацца, што крытыка іншым позіркам зірне на нашу літаратуру, сыходзячы з іншых крытэрыяў.

**— Вы адчуваеце сябе дзелавой жанчынай?**

— Дзелавітасць і творчасць цяжка сумясціць. Апошняе вымагае адхілення ад усяго, што спараджае міжвольную мітусню. Але, відаць, нейкія дзелавыя якасці ўва мне ёсць. Вельмі абавязковы і пунктуальны чалавек, на мяне можна спадзявацца, і блізкія мне людзі гэта ведаюць. Але, калі б нейкі мастак схацеў намаляваць мой партрэт, я не хацела б, каб гэта быў партрэт дзелавой жанчыны...

**— Ці існуе для вас, Раіса Андрэеўна, ідэал мужчыны?**

— Калі б не існаваў, я, напэўна, не выйшла б замуж. У жыцці — гэта мой муж, а ў творчасці... Усё той жа прывід, пра які я гаварыла раней. Увогуле ж, люблю разумных мужчын, але здольных на рызыкоўныя ўчынкі.

**— Некалькі слоў пра вашу працу ў часопісе "Алеся".**

— Ніколі раней не думала, што так лёгка, прыязна і спорна можна працаваць у жаночым калектыве. У нас цудоўныя супрацоўніцы. Па той рэдакцыйнай пошце, якую мы атрымліваем, можна меркаваць, што часопіс мы робім нядрэнны. Ва ўсялякім выпадку стараемся падтрымаць нашых жанчынак добрым, разумным словам. І яны нам за гэта ўдзячныя тым, што выбіраюць наш часопіс.

**— Раіса Андрэеўна, вы жанчына шчаслівая?**

— Па нейкіх агульна прынятых мерках, напэўна. Дом, сям'я, праца... Нюансы — у вершах. Ды і хто ведае, што такое шчасце?!

**Гутарыў Яўген РАГІН**

КНІГАПІС

# Час у вечнасці

Час ідзе. І нешта мяняецца. Нават калі мы гэтаму не надаём увагі. Прыклад: пяць гадоў таму з'явілася новае, не зусім звычайнае ў нашай сітуацыі выданне — "Беларускі праваслаўны каляндар", вялікага фармату, кніжнага аб'ёму (110 старонак) і накладу — ажно 10000. Выхад яго адбыўся пад знакам важных юбілеяў — 1000-годдзя першай епіскапскай кафедры на Беларусі і 200-годдзя Мінскай епархіі. А яшчэ, што істотна, яно засведчыла ўтварэнне і пачатак выдавецкай дзейнасці Праваслаўнага брацтва Святых віленскіх мучанікаў пры Свята-Петрапаўлаўскім саборы Мінска. Гэта была з'ява нешараговая і таму, што дагэтуль падобных выданняў мы проста не ведалі, і таму, што гэты каляндар быў даступны ва ўсіх адносінах, уключаючы і кошт. Галоўнае ж — такім чынам разгортвалася справа беларусізацыі праваслаўнай царквы. Справа, як вядома, няпростая, блытана інтэпрэтаваная з розных бакоў па-за царквою. Па сутнасці, задачы беларусізацыі павінны былі спалучацца з задачамі ўцаркоўлення і нават першапачатковай асветы ў пытаннях веры. Таму невыпадкова, што ў першым выпуску побач з непасрэдна каляндарнай часткай (дзе распісваліся ўсе святы, тлумачыліся богаслужэнні) быў змешчаны "Катэхізіс". Падкрэслім: на беларускай мове. Асветніцкія функцыі каляндар выконваў і потым. Рыхтавалася выданне дзякуючы найперш протаіерэю Георгію Латушку, протаіерэю Сергію Гардуну, іерэю Паўлу Баянкову, Таццяне Матрунчык, Леаніду Качанку, Алесю Ляскову з благаславення і пры сталай падтрымцы Мітрапаліта Філарэта.

Прызначаўся каляндар шырокаму колу — усім, хто трымаецца веры продкаў і беларушчыны.

І вось перад намі пяты выпуск, у пэўным сэнсе юбілейны. "Беларускі Праваслаўны Каляндар на 1998 год" — выданне, у якім, апрача ўжо традыцыйных раздзелаў (месяцаслоў, тлумачэнні святаў і трапары іх, жыціі святых, звод імёнаў), асаблівую цікавасць уяўляе раздзел "Светачы зямлі Беларускай". Змест яго — жыццяпіс князя Канстанціна Канстанцінавіча Астрожскага (1527—1608). Сёлета год памяці гэтага слыннага асветніка і абаронцы Праваслаўя ў нашых краях. І артыкулам, які падрыхтавалі Таццяна Матрунчык, Алена Яскевіч, Лідзія Кулажанка — супрацоўнікі лабараторыі царкоўнай гісторыі Брацтва трох віленскіх мучанікаў — ушаноўваецца светлая памяць князя-верніка. А матэрыял гэты можа таксама абудзіць і памяць кожнага з нас, бо ён прымушае задумацца, як любы перыяд часу набывае дачыненне да вечнасці.

**Аляксей ЧАРОТА**

## У шчырай гаворцы

**На чарговым пасяджэнні бюро секцыі крытыкі Саюза беларускіх пісьменнікаў абмеркавана творчасць Цімоха Ліякумовіча і Алеся Карлюкевіча. Падрабязна ахарактарызаваў іх набыткі ў галіне крытыкі, літаратуразнаўства, а таксама гістарычнага краязнаўства старшыня бюро секцыі Міхась Мушынскі. Пра адметнасць творчасці Ц. Ліякумовіча і А. Карлюкевіча гаворку прадоўжылі Мікола Мішчанчук, Алесь Марціновіч, Людзія Савік, Міхась Кенька, Міхась Тычына, Уладзімір Гніламёдаў, Генадзь Шупенька, Сцяпан Лаўшук і іншыя. Адзначалася, што кожны з гэтых аўтараў працуе плённа і мэтанакіравана і кожны мае публікацыі, якімі звярнуў на сябе ўвагу як чытачоў, так і крытыкаў. У Ц. Ліякумовіча з шэрагу кніг найперш вылучаецца манаграфія ў двух частках "Янка Купала і руская літаратура", нядаўна выдадзеная ў Брэсце, у А. Карлюкевіча зборнік "Вяртанне да Беларусі", што выйшаў у "Бібліятэцы часопіса "Маладосць". Ц. Ліякумовіч і А. Карлюкевіч рэкамендаваны для прыёму ў Саюз беларускіх пісьменнікаў.**

**На пасяджэнні разгледжана таксама пытанне аб правядзенні сумесна з секцыяй прозы сходу, на якім будзе абмеркавана проза на старонках часопіса "Нёман".**

## У бібліятэцы — ёсць усё



**У Брэсце дванаццаць бібліятэк могуць прапанаваць сваім чытачам не толькі патрэбную кнігу, але і каля васьмідзесяці газет, ста пяцідзесяці часопісаў, што выходзяць на Беларусі і ў Расіі.**

**На здымку: загадчыца чытальнай залы цэнтральнай гарадской бібліятэкі імя А.С. Пушкіна Жана Юркевіч заўсёды паможа пастаянным наведвальнікам Марыі Дзянісаўне Спіцынай і Клаўдзіі Антонаўне Сцепановіч знайсці патрэбную інфармацыю.**

*Фота Рамана КАБЯКА, БЕЛТА*

## Раскажуць слоўнікі

**Выдавецтва "Полымя" належыць да тых нямногіх дзяржаўных выдавецтваў нашай краіны, якія нават у цяперашніх неспрыяльных умовах працягваюць выпуск слоўнікаў, што сведчыць аб вялікіх, па сутнасці невычэрпных, магчымасцях беларускай мовы. Пацвярджэнне таму і чарговая навінка "палымянцаў" — "Беларуска-рускі слоўнік справаводнай і архіўнай тэрміналогіі" і "Русско-белорусский словарь делопроизводственной и архивной терминологии", змешчаныя пад адной вокладкай. Беларускі варыянт уключае ў сябе 10 000, а рускі — 8 000 слоў і словазлучэнняў, што найчасцей ужываюцца ў справаводстве і архіўнай практыцы. Значнае месца ў слоўніках адведзена фінансава-эканамічнай тэрміналогіі, тэрмінам па аўтаматызаванай сістэме кіравання, а таксама па навуковай інфармацыі, што найбольш часта сустракаюцца ў практычнай рабоце розных устаноў і арганізацый. Аўтарамі гэтага карыснага выдання з'яўляюцца Уладзімір Сарока, Тамара Мальцава і Ганна Запартыка.**

КРЫТЫКА

# "Колькі сілы і час дазволяць"

У асобе паэта, перакладчыка, выдаўца Момчыла Джэркавіча беларуская літаратура мае ў Бялградзе даўняга вернага сябра. Яго знаёмства з беларускім словам шчасліва пачалося з творчасці Аркадзя Куляшова. У 1974 годзе дзякуючы бялградскаму выдавецтву "Петар Кочыч" пабачыў свет зборнік паэзіі Аркадзя Куляшова "Беларускія бярозы" (пер. Р. Пайкавіча і М. Джэркавіча). У прадмове да кнігі М. Джэркавіч параўнаў творчасць А. Куляшова з апазнавальным маяком усёй сучаснай беларускай паэзіі, адзначыў незвычайную напоўненасць думкамі і эмоцыямі яго лірычных песень. М. Джэркавіч не толькі знаёміў сербскахарвацкага чытача з новым аўтарам, але і карыстаўся нагодай, каб выказаць сваё творчае крэда. Яму, зведаўшаму ў юным узросце рызыку партызанскіх сцежак, знявечанаму вайной, была зразумелай і блізкай трагедыя азёрнага краю пад белымі бярозамі.

Важкім плёнам далейшага ўваходжання М. Джэркавіча ў нашую літаратуру стаў выхад зборніка паэзіі Максіма Танка (1985). Аб адказным падыходзе перакладчыка да гэтай сваёй работы сведчыць тое, што творы для кнігі "Перапіска з часам" выбіраліся з многіх выданняў паэта. Змястоўная прадмова "Паэзія — зямля без межаў" мае форму ліста-звароту да Максіма Танка, чым забяспечваюцца асаблівая цеплыня, непасрэднасць слова, што папярэднічае знаёмству чытача з самой паэзіяй. Перакладчык вымушаны прызнацца ў цяжкасці выбару: шмат з таго, што хацелася перакласці, ён апусціў з-за абмежаванай друкарскай прасторы. Неаднойчы вярталі яго да сябе Танкавы вершы, думкі, асобныя радкі. "Вельмі нязвыклым чынам гавару пра Вас і так хачу Вашу паэзію прадставіць югаслаўскім чытачам, упэўнены, што яны знойдуць альфу і амегу Вашай творчасці... Мяне зачаравала прыродная натуральнасць, лірыка гука, пранікненне ў найтанчэйшыя чалавечыя эмоцыі, натхнёны расповед аб сабе, часе, родных мясцінах, расповед аб бяссэнсіцы насілля над чалавекам і ягонай свабодай". Перакладу вершаў Максіма Танка на сербскахарвацкую мову папярэднічала шматгадовае знаёмства перакладчыка з паэтам, сустрэчы ў Мінску і Бялградзе. "Радасць мець такога паэта на свеце, а тым больш быць сябрам, прысутным за "яго сталом". Перакладаючы Вашыя вершы з беларускай мовы на сербскахарвацкую, спазнаў, колькі між нашымі народамі агульнага, роднага ў мове, эмоцыях, гісторыі, фальклоры... я адкрываў Беларусь, і яна ўва мне засталася, каб казаць пра яе іншым, колькі сілы і час дазволяць".

У 1986 годзе ў выдавецтве Момчыла Джэркавіча "Ново дело" пабачыла свет аповесць Васіля Быкава "Знак бяды". Для перакладчыцы Даніцы Якшыч гэта быў не першы падыход да беларускай прозы (Шамјакин И. Срце на длану. Београд, 1965). Чарговая сустрэча з нашай літаратурай адбылася пад крыламі духу самога арыгінала. Варта спасылацца на тое, як высока ацэньвае пераклад Іван Чарота: "Прыкметных недахопаў, пралікаў няма. Прычым перакладчыца дабілася не толькі лінгвістычнай раўназначнасці і дакладнасці. У стылі яе працы належная ўвага надаецца своеасаблівасцям моўнай стыхіі, якую ўвасабляў В. Быкаў і тады, калі рабіў свой аўтарскі пераклад на рускую мову". Вядома, ва ўдалым перастварэнні гэтай досыць складанай для перакладу аповесці нашага пісьменніка вырашальная роля належыць таленту, майстэрству Д. Якшыч. Аднак нельга абмінуць увагай і той факт, што пры перакладзе з сербскахарвацкай мовы на беларускую і наадварот арыгінал мае значна больш мажлівасцей загучаць ва ўсім сваім шматгалоссі, чым, напрыклад, у выпадку перастварэння на рускую мову. Аб'ектыўныя прадпасылкі такой з'явы адшукваюцца ў самім гістарычным развіцці беларускай і сербскахарвацкай моў — іх набліжанасці да свайго вытоку (стараславянскай мовы) і да гнуткай, рэчыўнай гутарковай стыхіі.

Ёсць падставы спадзявацца, што ў хуткім часе рэалізуецца даўняя задума М. Джэркавіча: выданне "Анталогіі беларускай паэзіі XX стагоддзя". Шэраг паэтычных падборак у сербскіх літаратурна-мастацкіх часопісах, а таксама прызнанне самога М. Джэркавіча, зробленае ім у пасляслоўі да панарамы беларускай паэзіі ў часопісе "Стремљења" (1—3/1997) пацвярджаюць сур'ёзнасць намераў перакладчыка. Па вялікім рахунку паэт — своеасаблівы прарок, усплеск жыццятворнай энергіі, напрацаванай на роднай зямлі многімі пакаленнямі. Патрэбы гістарычна-сацыяльныя, прыкметы часу агульныя і індывідуальныя знаходзяць водгук, замацоўваюцца ў слове і сведчаць урэшце пра мінулае і цяперашняе, а таксама перспектыву развіцця цэлага народа, нацыі. Летась сербскі чытач меў магчымасць пры пасрэдніцтве М. Джэркавіча скласці пэўнае ўражанне пра Беларусь дваццатага стагоддзя дзякуючы знаёмству з творчасцю нашых паэтаў у часопісах "Стремљења" (Янка Купала, Якуб Колас, Максім Багдановіч, Пятрусь Броўка, Уладзімір Караткевіч, Рыгор Барадулін, Анатоль Вярцінскі) і "Звоно старо" (Ніл Гілевіч, Раіса Баравікова, Максім Танк, Алесь Разанаў). Годам раней рубрыка "Перакладзеная паэзія" ў часопісе "Стварање" (3—5) адкрылася вершамі Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча, Максіма Танка, Ніла Гілевіча.

Лірыка Янкі Купалы ўжо перакладалася на сербскахарвацкую мову. Так, у зборніку "Словенске риме" (Београд, 1976) побач з творамі Б. Пастэрнака, М. Рыльскага, Е. Баграну, В. Незвала, К. Лоранца, А. Градніка, Б. Канескага змешчаны вершы нашага песняра: "Як я полем іду", "Спадчына", "Бацькаўшчына", "Дзве таполі", "Жніво". У кароткай прадмове складальнік і перакладчык кнігі Стэфан Раічковіч адзначыў, што дарэвалюцыйны Купала значна адрозніваецца ад Купалы пазнейшага перыяду. "Выразны лірык з меладычным вершам, багатаю народнаю моваю" пазней бярэцца "за агульныя тэмы, характэрныя і для іншых паэтаў сацыялістычнага рэалізму". І, мабыць, невыпадкова, што М. Джэркавіч аддаў перавагу творам ранняга Я. Купалы, пераклаўшы верш "Мужык", "Мая малітва", "Я не паэта", "Чорныя вочы".

З асаблівай, здаецца, любоўю чытаў перакладчык М. Багдановіча. Творы з яго геніяльнай адзінай кнігі паэзіі, гэтага "вянка адраджэння" (Т. Чабан) уяўляюць сабой фрагменты мастацкага цэлага. Сербскі ж чытач мае своеасаблівую сцежку ў духоўна-творчы космас Максіма Багдановіча. Цыкл "Старая Беларусь" прадстаўлены вершамі "Летапісец" і "Слуцкія ткачыхі", цыкл "Старая спадчына" — "Пентаметры", "Санет" ("Паміж пяскоў Егіпецкай зямлі"), найбольшая ў "Вянку" нізка ў "Зачараваным царстве" — знакамітай "Зоркай Венерай" і драматычным вершам "Плакала лета, зямлю пакідаючы". Перакладчыка зацікавілі таксама "Трыялет" ("Мне доў-

КНІГАРНЯ

# Супраць ружовасці жыцця

Каб кніга Леаніда Левановіча "Вяртанне ў радыяцыю" выйшла ў выдавецтве "Юнацтва", патурбаваліся два міністэрствы — Міністэрства па надзвычайных сітуацыях і ліквідацыі вынікаў аварыі на Чарнобыльскай АЭС (міністр І. Кенік) і Міністэрства прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя (міністр М. Русы). Міжволі прыходзіць думка: як бы добра было, калі б гэтаму прыкладу паследавалі і іншыя міністэрствы, розныя арганізацыі і ўстановы, паспрыяўшы выпуску літаратуры, як мы любім цяпер казаць, сацыяльна значнай і ў пэўнай ступені "профільнай" ім. Кніга ж Л. Левановіча — пра страшныя наступствы, якія прынесла з сабой катастрофа, што стала трагедыяй стагоддзя і ўвогуле ў гісторыі чалавецтва. Але адначасова яна і пра Чарнобыль маральны, духоўны, які робіць нас душэўна чэрствымі, абыякавымі, няздатнымі адэкватна рэагаваць на тое, што адбываецца вакол, не гатовых дбаць пра дзень заўтрашні; як сукупнасць самых розных фактараў, сярод якіх, як бы ні іранізавалі над гэтым паняццем, усё ж галоўным застаецца чалавечы: захаваем чалавека ў сабе і вакол сябе — значыць, зберажом Зямлю, жыццё, чалавецтва.

Але чытацкая ўвага да новай кнігі Л. Левановіча тлумачыцца тым, што яна не толькі публіцыстычная, хоць у яе і ўключаны два нарысы — "Лёс, абпалены Чарнобылем" і "Радуніца ў роднай вёсцы". У першым аўтар расказвае пра лёс пісьменніка Івана Кірэйчыка, з якім пазнаёміўся і пасябраваў у гады юнацтва, другі нарадзіўся ў выніку паездкі пісьменніка ў родную вёску Клеявічы Касцюковіцкага раёна, у вёску, якую мусілі пакінуць жыхары. І ў першым, і ў другім выпадку праўдзіва раскрыты людскія лёсы. І таго ж І. Кірэйчыка, які заўчасна пайшоў з жыцця не без дапамогі Чарнобыля, і сваякоў і родзічаў аўтара, ягоных землякоў.

Аднак жа асноўную нагрузку ў кнізе нясуць аповесць "Узяць пад варту ў зале суда" і апавяданні. Пра аповесць мне даводзілася згадваць, робячы некалькі гадоў назад агляд літаратурна-мастацкіх часопісаў — яна ў скарочаным варыянце публікавалася ў "Маладосці". Цяпер, чытаючы аповесць у яе поўным варыянце, з прыемнасцю адзначаю, што твор атрымаўся акурат такім, якім ён, як мне здаецца, і задумваўся пісьменнікам: паказаць нашае жыццё ў яго штодзённай плыні. І паказаць не толькі праз лёс галоўнага героя, а і праз лёсы іншых людзей, што па-свойму прапушчаныя праз яго лёс. Зрабіць гэта Л. Левановічу дапамагло тое, што яго галоўны герой — народны засядацель у судзе, чалавек, які па абавязку грамадскай працы кантактуе з многімі, падчас разгляду судовых спраў даведваецца шмат чаго пра тых, хто аступіўся ці пайшоў на злачынства. У выніку ён міжволі задумваецца і над сваімі ўласнымі ўчынкамі, паводзінамі, што вядзе і да самааналізу, і да пераацэнак, выверкі ўласнай жыццёвай пазіцыі.

Аляксей Сарока — не маладзён, нямала пабачыў за сваё жыццё. Ён — "адстаўны падпалкоўнік, служыў на Далёкім Усходзе, у Казахстане, ваяваў у Афганістане, там быў паранены, звольніўся ў запас, і пацягнула яго на радзіму, у Беларусь. Выбраў для жыхарства Мінск, а родам ён з Магілёўшчыны". Уладкаваўся Сарока ў праектным інстытуце, дзе стаў намеснікам начальніка аддзела кадраў. А тут "прыйшла зверху папера: абраць аднаго народнага засядацеля. Інстытуцкае начальства вырашыла, што Сарока — чалавек вопытны, прынцыповы, зможа з годнасцю выконваць у судзе свае абавязкі".

Усё, як бачым, будзённа і звыкла: менавіта такіх адстаўнічых лёсаў — вельмі і вельмі шмат. Але справа ў тым, што Сарока — не такі, як іншыя вайсковыя адстаўнікі. Не, Л. Левановіч не ідэалізуе свайго героя. Наадварот, ён паказвае Сароку чалавекам з многімі слабасцямі. У прыватнасці, Сарока хоць і шчыры, прынцыповы, але не ва ўсім можа належным чынам сцвердзіць сябе ў жыцці. Адсюль і непаразуменні ў сям'і, немагчымасць знайсці агульную мову з жонкай, дачкой. Безумоўна, нельга сказаць, што ў гэтым віна яго аднаго. Ды ад гэтага не лягчэй і самому Сароку, і яго блізкім.

Выкананне Сарокам грамадскіх абавязкаў, канечне ж, не панацэя ад таго, што яго непакоіць, а ў нечым і гняце, але, як ужо гаварылася, гэта магчымасць "паназіраць" і за самім сабой. У аповесці асабліва ўдаліся эпізоды, дзе Сарока займаецца самааналізам і пераацэнкай, заглыбляецца ў сутнасць таго, што не толькі на паверхні пэўных з'яў і ўчынкаў. І гэта для яго цяпер, калі ўзніклі асобныя сумненні, важна як ніколі. Бо знаходзіцца наплыву яшчэ не азначае мець пастаяннае апірышча. Яно ў іншым... У чым жа? Над гэтым Сарока і задумваецца зноў і зноў. Тым больш, што падстаў для одуму паболела пасля таго, як у краіне адбыліся вялікія змены. Вялікія?

Акурат вялікімі Сарока не можа іх назваць. І не толькі таму, што ён знаходзіцца ў сваім часе. Проста ён няздатны, як іншыя, рэзка мяняць свае погляды — флюгерства яму не па душы. Але ўсё ж Сарока — і не на шкоду сабе, а на карысць, хоць, магчыма, гэтага пакуль да канца і не разумее — прыходзіць да высновы, да якой не мог не прыйсці: "Пасля судовых пасяджэнняў ён зразумеў: жыццё зусім не такое ружовае, якім уяўлялася раней, любіць і бараніць якое ён пераконваў маладых байцоў. Часам яму рабілася сорамна за тыя крыклівыя, гучныя словы. У судзе ён убачыў багата слёз, перажыў нямала чалавечых трагедый. Гэта змякчыла ягоную душу, як вада змякчае і жывіць скамянелую, перасохлую глебу". А яшчэ, задумваючыся над пражытым, Сарока зразумеў і іншае: трэба радавацца жыццю, даражыць ім...

Супраць ружовасці ў жыцці Л. Левановіч выступае і ў апавяданнях, з якіх глыбіней

гае расстанне з Вамі") і "Просценькі верш", у якім паэт параўноўвае сваю долю з "няяркай, маленькаю вясёлкай", што ледзь бачна зіхаціць вакол месяца, а ў падтэксце прачытваецца, магчыма, што гэткі ж лёс і — яго сціплага народа, які, аднак, нараджае вялікіх паэтаў... Увогуле ўсе вершы, абраныя М. Джэркавічам для перакладу на сербскую мову, сведчаць пра тое, што ў М. Багдановіча не было выпадковых твораў. Самі пераклады М. Джэркавіча дастаткова сугучныя арыгіналу, адэкватна перадаюць змест і форму праз адпаведную рытміка-інтанацыйную арганізацыю, урэшце праз кантэкст гістарычна-сацыяльных сыходжанняў.

Летапісцам Нестарам, "наскрозь гістарычным паэтам у тым сэнсе, што абуджаў у народзе гістарычнае мысленне, а значыць, і гонар", — назваў М. Багдановіча У. Караткевіч, годна развіваючы сваёй творчасцю традыцыі геніяльнага папярэдніка. М. Джэркавіч знаёміць сербскага чытача з трыма вершамі У. Караткевіча: "Калі агорне цемра неба", "Белавежскі алень" і "На Беларусі Бог жыве".

Уласна кожны паэт пачынаецца з пачуцця любові да роднай зямлі, дадзенай яму, як маці, самім нараджэннем. І Радзіму, як маці, не выбіраюць, не наракаюць на яе голас, аднак дасюль у нас, на жаль, гэтая найпершая маральная аксіёма мае патрэбу ў напаміне, паўторы. Таму шчырая прысяга У. Караткевіча, як і іншых, у вернасці "краю раскрытых душ і дзвярэй" захоўвае сваю актуальнасць, сведчыць у паэтычнай форме пра ягоны светлы "дом і сабор" на мове брацкага славянскага народа.

У пасляслоўі да панарамы беларускай паэзіі М. Джэркавіч згадвае пра тое, што ў 1993 годзе ў Бялградзе пабачыла свет у перакладзе і з прадмовай Міодрага Сібінавіча "Анталогія беларускай паэзіі" (укладанне і прадмова І. Чароты), якая прадстаўляе беларускі верш XVI—XX стагоддзяў. М. Джэркавіч лічыць, што гэтая кніга, на жаль, не знайшла адпаведных сваім вартасцям розгаласу і ацэнкі, нібыта кніга "нейкага незнаёмага, непісьменнага племені", а "не блізкай нам славянскай краіны, гісторыя якой шмат у чым, як і наша, абумоўлена нашэсцямі заваёўнікаў. Так бы мовіць, хата пасярод дарогі, як і сербская..." На думку М. Джэркавіча, гэтая кніга заслугоўвае самай пільнай увагі культурнай грамадскасці. Што ж, магчыма, выданне М. Джэркавічам "Анталогіі беларускай паэзіі XX стагоддзя" актывізуе цікавасць да беларускага слова, нашай гісторыі ў Сербіі і будзе садзейнічаць далейшаму адкрыццю Беларусі светам. Застаецца толькі пажадаць, каб нашаму 'сербскаму' сябру яшчэ доўга ставала сіл і часу казаць пра Беларусь.

**Галіна ТВАРАНОВІЧ**

---

пранікнення ў характар галоўнага персанажа, самой пастаноўкай праблемы вылучаецца "Карандашык". Не хацеў бы, каб знайшліся ахвотнікі ўспрыняць падобнае параўнанне неправамерным, але ў дадзеным выпадку, як мне здаецца, — бакайскі падыход да разумення чалавека на вайне. Іван Сазонавіч Міхалёнак — удзельнік Вялікай Айчыннай вайны, але з тых, хто пасля яе застаўся непрыкметным, бо не мае вялікіх узнагарод, а ў жыцці сціплы. Такіх не запрашалі ў прэзідыумы розных сходаў (тым больш не запрашаюць цяпер), на сустрэчы з моладдзю. І вось, нарэшце, прыйшоў і час Міхалёнка — да яго завіталі два хлапчукі і настаўніца. І ён не змог адмовіцца ад іх просьбы. А ў час выступлення нечакана стаў іншым. Тое сказаў, пра што маўчаў ды і, па сутнасці, баяўся гаварыць:

"Неяк мы штурмавалі вышыню летам сорак чацвёртага. Пасля атакі з нашага аддзялення засталося два чалавекі. Прыпоўз я ў зямлянку да ўзводнага, сам кантужаны, вушы засыпала зямлёй. Ну, дакладваю: так і так, засталося нас двое. Узводны давай крычаць у тэлефон: у мяне засталося сем карандашыкаў. Я адразу не датумкаў, што да чаго. А потым да мяне дайшло: карандашыкі — гэта мы, байцы. Людзі. Ну, дзеля сакрэтнасці".

І далей да слёз на вачах праўдзівае ў споведзі Міхалёнка:

"Адкуль будуць тыя награды, калі ўзводны нават майго прозвішча не ведаў. "Карандашык", і ўсё. Камандзіры гінулі, мяняліся. Не паспее агледзецца, пазнаёміцца з байцамі, як яго ўжо няма. Забіты ці паранены... Мая ўзнагарода — жыццё".

Апавяданне "Карандашык" — з самога жыцця і пра само жыццё. Пра нашае жыццё,якім яно было тады, калі многае замоўчвалася. Таму "карандашыкі" заставаліся і ў мірным жыцці. І патрэбны быў момант, каб яны зразумелі, што **такімі** далей заставацца нельга. Зразумеў гэта, няхай і позна і Міхалёнак.

"Вяртанне ў радыцацыю" Л. Левановіча — гэта і вяртанне да праўды. А з праўдай і жыць лягчэй.

**Алесь МАРЦІНОВІЧ**

---

# Шлях у вяках

## ЛЕТАПІСНАЕ СВЯТЛО ПРАЗ РУЖОВЫ ТУМАН

Нічога няма мілейшага для чалавека за прыгадкі пра ўласнае дзяцінства. Так часам пацягне расказаць пра яго... Каб дзеці-ўнукі ведалі, як было калісь, за бацькамі-прадзедамі, што дзівілі сваёй валатоўскай моцай. І як здрабнеў свет цяпер, калі рэчкі звілістыя меліярацыяй павыпрамлялі ды рыба ў іх перавялася, і звярына ў пушчах змізарнела, ды і лясы ўшчэнт запаскуджаныя, не кажучы пра людскія душы.

Няма нічога мілейшага для цэлага народу, як пазнаваць свае першавытокі, чытаючы летапісныя паданні і хронікі продкаў, што даўно спачылі ў капцах-курганах, але пакінулі нашчадкам слова пра сябе, свой род і эпоху: пра войны ды ліхалецці, пра няўрод і таемныя нябесныя знаменні. Такога каштоўнага і спажыўнага для душы занятку пакаленні беларусаў былі пазбаўлены. І калі часам выходзілі ў свет дыхтоўныя тамы, падрыхтаваныя намаганнямі навукоўцаў-палеографаў (згадаем з пашанай дый удзячнасцю прозвішчы Міколы Улашчыка, Аляксандра Коршунава) — дык прызначаліся яны найбольш для навуковага ўжытку, а не для люду паспалітага, каб данесці ўсю спецыфіку старажытных тэкстаў з іх памылкамі, прапушчанымі літарамі, нерасчытанымі мясцінамі, варыянтамі розных рэдакцый і спісаў.

Нарэшце адбылося доўгачаканае.

У лета Божае 1997-е, напрыканцы яго, месяца снежня 17 дня быў падпісаны ў свет сігнальны асобнік "Беларускіх летапісаў і хронік". Том гэты з'явіўся ў выдавецтве "Беларускі кнігазбор", вядомай ужо шырокаму колу чытачоў (без перабольшання, бо паўдзесятка тысяч кніг у любой краіне — гэта немалы наклад). Але выйшаў ён не ў звыклай бурачковай вокладцы, а ў зялёнай, хоць астатняе афармленне вонкава засталося ідэнтычным. Так запачаткавалася іншая, адрозная ад першай "Мастацкай серыі", новая кнігазбораўская серыя — "Гісторыка-літаратурныя помнікі". Помнікі не ў строгім, акадэмічным сэнсе слова, а ў адаптаваным перакладзе на сучасную беларускую мову.

Укладальнік тома — вядомы пісьменнік Уладзімір Арлоў, які застаецца верны айчыннаму гістарычнаму жанру, так ярка выяўленаму ў XX стагоддзі Уладзімірам Караткевічам. Дарэчы, велічная постаць незабыўнага нашага сучасніка ніяк не кладзецца не толькі ў пракруставане ложа гісторыі беларускай савецкай літаратуры, але і ў падручнік "таталітарызму", раздзел якога нядаўна пафасна падаў на старонках штотыднёвіка Сяргей Дубавец. Бо невыпадкова ў вострым крытычным выступленні апошняга аўтар "Каласоў пад сярпом тваім" не прыгадваецца ні ў стане тых, хто выбраўся з "ружовага туману", ні "сярод шматлікай пісьменніцкай гвардыі, хто так і застаўся "сляпым". Ці не ў тым фенаменальнасць мастакоўскага таленту Караткевіча, што "божы дар" яго ўзгадоўваўся на айчынных летапісных пісьмёнах і вусных родавых паданнях, незраўнанным знаўцам якіх Уладзімір Караткевіч застанецца ў вяках. Хоць свае гістарычныя паэмы і аповесці аўтар "Дзікага палявання караля Стаха" нёс на параду да Я. Брыля і М. Танка, а не да каго іншага (напрыклад, не да бацькі С. Дубаўца, які на той час займаў адказную генеральскую пасаду)...

Ведаючы (як мала хто сярод пісьменніцкай браціі) гістарычнае мінулае нашай краіны, У. Арлоў цяпер вырашыў выступіць папулярызатарам айчыннай гісторыі не праз уласнае мастацкае слова, а сабраўшы летапісныя скарбы, якія, патаруся, доўга знаходзіліся ў вузка-навуковых выданнях па-сапраўднаму незапатрабаванымі. Такую ініцыятыву належыць толькі вітаць, бо ў сённяшнім жыцці не кожны здольны прайсці праз элементарную вернасць пісьменніцкаму цэху і гістара чалавечую спачувальнасць. (Трохі больш чым за месяц да пазначанага дня, калі быў падпісаны ў свет сігнальны асобнік "летапісаў і хронік", "Беларускі кнігазбор" прасіў дапамогі ў розных людзей, між іншым і ў колішняга празаіка-раманіста, аўтара буйных гістарычных твораў, а цяпер нябеднага бізнесмена, з просьбай фінансава падтрымаць выхад першай кнігі ў новай "гісторыка-літаратурнай серыі". Адказ жа ад яго пачулі кароткі і цсебаваты: "У мяне грошай няма. Да пабачэння".)

Уладзімір Арлоў стаў і літаратурным рэдактарам выдання. Аднак усведамляючы складанасць і спецыфічнасць падрыхтоўкі да выдання гістарычных помнікаў, упершыню так шырока пададзеных для беларускага чытача, на ўспамогу быў паклікаведучы наш даследчык старабеларускай літаратуры, палеограф Вячаслаў Чамярыцкі, які зрабіў навуковае рэдагаванне кнігі і напісаў да яе грунтоўны ўступ. "Кожны народ, дасягнуўшы пэўнага ўзроўню свайго культурна-гістарычнага развіцця, грамадскай і этнічнай самасвядомасці, пачынае ўсведамляць вялікую важнасць сваёй гісторыі, веданне якой неабходна захаваць і перадаць наступным пакаленням" — трапна акрэсліве даследчык ужо ў першым сказе важкасць і каштоўнасць гістарычных крыніц. Чытаючы прадмову В. Чамярыцкага, міжволі прыгадаецца ўступнае слова да яшчэ аднаго, капітальнага тома пра нашы даўнія карані — "Гісторыі беларускай (крыўскай) кнігі" Вацлава Ластоўскага: "Няма больш занядбанай дзедзіны ў светавой пісьменнасці як гісторыя панявольных народаў. Вышэйсказанае асабліва кідаецца ў вочы, калі ўзяць якую-колечы галіну нашай, крыўскай, гісторыі. То знача, гісторыі народа, каторы, не так яшчэ даўно, жыў сваім самаістым палітычным і культурным жыццём. Супярэчнасць між сведчаннем гістарычных помнікаў і асвятленнем іх сучаснай пісьменнасці — проста паражаючая. Беручы ў рукі гістарычную кнігу часовых нашых пераможцаў, не ведама чаму больш дзівіцца, ці іх бескрытычнасці, ці іх паражаючай умеласці тэндэнцыйна выкарыстоўваць аб'ектыўныя сведчанні гісторыі".

Пісаць "проста" і праўдзіва, коратка і ясна — як дыхаць і жыць, як трымаць у лютай сечы меч і шчыт, як стомлена хадзіць за сошкай у полі ці градам (аднолькава божая кара) палеглы палетак ці галодныя вачаняты дзетак, як сядзець улітым у сядло перад варожымі шыхтамі на талкавіску ці за бяседным сталом хмельна спяваючы радзімную песню (невядомы фальклорны жанр у іншых славянскіх народаў) — вось якому забытаму найвялікшаму крэда могуць навучыць сучасных майстроў прыгожага пісьменства нашы даўнія пісьмёны. "Того ж року 1601, месяца октобра десятого дня, целую неделю снег силный и кгвалтовный ишол. Выпал до полголени. Также и буря силная была. Тогды пшеницы, ярицы, овес, гречиху, горохи и вси овощи, великое множство ярицы на полях непожатые, также и копы жатые снегом позаметала метелица, иж было жалосно и страшно гледети и выповедити уздыханя и плачу людей убогих, пашников немаетных... А потом почали жати-горевати па снегу у стужу. Были теж морозы великие, огнь клали, сами грелися, иж страшно и жалосно было гледети. Три, два человека на день ледво снопов 40 нажнут овса албо ярицы, бо велми к земли (прилегло)" (с. 207).

Паглыбляючыся ў штодзённыя і пагадовыя запісы, выкладзеныя на старажытны лад, задаешся пытаннем: а чаму б сучасным крытыкам не папракнуць далёкіх летапісцаў у апалітычнасці, адсутнасці "нацыянальнай ідэі"?

Арыгінальных тэкстаў, як гэты ўрывак з "Баркулабаўскай хронікі", прыведзены толькі адзін (з паралельным перакладам на сучасную беларускую мову); астатнія — толькі ў адаптавана-перакладным варыянце. Згаданы ўжо навуковы рэдактар і аўтар прадмовы В. Чамярыцкі падрыхтаваў і пераклаў са старажытнарускай і старабеларускай моў "Паданні пра полацкіх князёў" ("Паданне пра Рагнеду", "Аповесць пра Усяслава Полацкага"), "Старонкі Полацкага летапісу", "Аповесць пра князёў Міндоўга, Войшалка і Тройдзеня", "Летапіс вялікіх князёў літоўскіх". У перакладзе Зміцера Саўкі змешчаны "Хроніка Быхаўца", "Старонкі рыцарскага эпасу" ("Пахвала... князю Канстанціну Іванавічу Астрожскаму"; "Аповесць пра Жыгімонта Аўгуста і Барбару Радзівіл"). Пераклад са старабеларускай цытаванай вышэй у арыгінале "Баркулабаўскай хронікі" выканаў Сяргей Вераціла. "Віцебскі летапіс", а таксама "Магілёўскую хроніку Трафіма Сурты і Юрыя Трубніцкага" пераклаў з польскай Віктар Таранеўскі. Кожны з перакладчыкаў выступіў і аўтарам каментарыяў (выключэннем стала "Баркулабаўская хроніка", да якой пададзены каментарыі нябожчыка Аляксандра Коршунава), што не пазбавіла іх пэўнага паўтору, паколькі ў летапісных крыніцах выступаюць адны і тыя гістарычныя героі.

Але гэтыя недагляды будуць пазбегнуты ў будучых, больш поўных выданнях нашых гістарычных крыніц, як і іншыя недахопы і празмернасці. Скажам, у "Хроніцы Быхаўца". Слушную ў нечым ідэю (разбіць тэкст на раздзелы і падаць да кожнага з іх загалоўкі) перакладчык здрабніў: няпоўную сотню кніжных старонак (96) ён распалосіў 67 загалоўкамі. Нічога не будзе дзіўнага, калі наступныя выдаўцы нашых летапісаў узбуйняць "Хроніку Быхаўца", пакінуўшы дзесятак-другі загалоўкаў, або зусім адмовяцца ад вольнага абыходжання з гістарычнай першакрыніцай. У маёй тэксталагічнай практыцы такое давялося зрабіць нядаўна, рыхтуючы да выдання аднатомнік твораў Ластоўскага, калі першапачатковы тэкст аповесці "Прыгоды Панаса і Тараса" (Пінск, 1912) быў апрацаваны ў сярэдзіне 1950-х гг. (газ. "Бацькаўшчына", 1955, Нью-Йорк). У адрозненне ад пінскага выдання ў эміграцыйнай публікацыі з'явіліся падзагалоўкі (І. Панас і Тарас едуць людзей і свету пабачыць; ІІ. Мазурэ; ІІІ Мазурэ на кірмашы і г.д.). Падзагалоўкі-падраздзелы (усіх іх 19) захоўваліся і ў мюнхенскім выданні "Твораў" В. Ластоўскага (1956 г.).

І апошняе: узровень перакладаў. Каб аналізаваць перакладны тэкст, неабходна мець пад рукою арыгіналы. З іх, як адзначалася, у летапісным томе прыведзена толькі "Баркулабаўская хроніка". Параўноўваючы пачатак твора з прапанаваным перакладам, заўважаецца неадпаведнасць. "Сейм великий был у Берести лета бож(о-го) нарож(еня) 1545, на котором сейме был король его милость полский, великий князь литовский Жикгимонт Казимерович з королевою Бонею и с королевнами..." (с. 180). У перакладзе праз недагляд выпала азначэнне "вялікі князь літоўскі": "У год 1545 ад Божага нараджэння ў Бярэсці адбыўся вялікі сойм, на якім быў яго міласць кароль польскі Жыгімонт Казімеравіч з каралевай Бонай і з каралеўнамі..." (с. 218).. Або такая мясціна: "...Люди убогие ярь на весне жали-горевали, але вже толко для статку. А того много статками на весне сами господари свае збоже травили". У перакладзе: "Людзі ўбогія яравую пшаніцу ўвесну жалі-гаравалі, але ўжо толькі для жывёлы, і таму многія гаспадары, самыя статнікі (?), увесну сваё збожжа стравілі" (с. 246). Гэты сказ можна было перадаць больш дакладна і па-беларуску. Накшталт: "Увесну людзі ўбогія ярыну жалі-гаравалі, але ўжо толькі для скаціны. А таму вясною шмат яе самі гаспадары сваё збожжа статкамі спасвілі". Калі першы пралік можна аднесці і на рахунак абодвух рэдактараў, дык апошні (і падобнага кшталту) — на сумленні перакладчыкаў: іх мастацкага густу і досведу.

Ды галоўнае (невымерна!) іншае: у шырокі зварот вярнуты вялікі пласт Беларускага Тэксту (на недахоп яго на старонках "ЛіМа" жаліўся яшчэ адзін сучасны крытык, В. Акудовіч — апанент С. Дубаўца). Прароблена значная, непамерна важная справа набліжэння летапісных старонак да сучасніка. Зразумела, не ўсе гістарычныя крыніцы ўвайшлі ў гэтае выданне.

Але разгарнуўшы першы "зялёны" томік "Беларускага кнігазбору" кожны адчуе, што ў нас ёсць найвялікшае багацце, якое яшчэ па-сапраўднаму не запатрабавана: мы, беларусы, мелі ўласную тысячагадовую гісторыю. І шлях наш доўжыцца ў вяках.

*Беларускія летапісы і хронікі. Пер. са старажытнарускай, старабеларус. і польск. /Укладальнік Уладзімір Арлоў; навуковы рэдактар, аўтар прадмовы Вячаслаў Чамярыцкі. — Мн., "Беларускі кнігазбор", 1997. 432 с., [8] л. іл.*

**Язэп ЯНУШКЕВІЧ**

ПРОЗА

Таццяна МУШЫНСКАЯ

# ЮЛЯ



АПАВЯДАННЕ

МІКОЛА ДОЎГА хадзіў па майстэрні. Браўся за тэлефонную трубку, набіраў нумар, і... Зноў клаў трубку на рычаг. Калі б месяц назад хто-небудзь сказаў Міколу, што ён будзе так пакутаваць, каб пазваніць, скажам так, былой знаёмай, — ён бы проста засмяяўся ў вочы і не паверыў. Нарэшце Мікола ўсё-такі набраў нумар. Якое шчасце — трубку ўзялі!

— Алё... — пачуў ён знаёмы, ціхі і як быццам крыху стомлены голас.

— Юля, гэта я... — толькі і змог вымавіць. Паўза падалася яму нясцерпна доўгай. "Хоць бы яна не кінула трубку! Набраць нумар яшчэ раз у мяне проста не хопіць сіл..."

— Я чую, што ты...

Юля гаварыла так, нібы не ляжала паміж імі гэтая велізарная адлегласць у шэсць гадоў, а бачыліся яны толькі ўчора ці пазаўчора. Здаецца, яна не надта і здзівілася ягонаму званку. Нібы ўсё так і павінна быць. І гэта надало яму смеласці. Словы ўжо не перасядалі ў горле.

— Юля, гэты нумар тэлефона мне падказаў твой бацька... — Мікола адчуваў, што ён гаворыць зусім не тое, што трэба было казаць. Бо яны не бачыліся столькі гадоў! Але ён не адчуваў яе рэакцыі на ягоныя словы, рэакцыі, якая б дапамагла яму бездакорна выбраць патрэбную інтанацыю.

— ...мы з табой так даўно не бачыліся ("Як фальшыва гучаць мае словы! Напэўна, яна паморшчылася на другім канцы провада"), дык... дык, можа, ты запросіш мяне ў госці? ("Якое нахабства з майго боку! Яна зараз проста рассмяецца ў трубку або ціха пакладзе яе на рычаг...").

Але чамусьці яна не паклала трубку, не засмяялася, а сказала вельмі проста: "Добра, запрашу", — як быццам у ягонай просьбе нічога дзіўнага ці нахабнага не было.

Назаўтра была субота. (Мікола чамусьці ўспомніў, што іхнія з Юляй сустрэчы, калі яна пазіравала для партрэта, адбываліся менавіта ў суботу.) І ён паехаў з цэнтра горада, дзе знаходзілася майстэрня, на ўскраіну, па тым адрасе, які яму назвала Юля.

Уся ягоная смеласць і рашучасць растулі, як ранішні туман, каля звычайнага блочнага дзевяціпавярховага гмаху, на рагу якога чорнай фарбай быў пазначаны патрэбны яму нумар. Што ён скажа ёй? Прайшло пяць ці шэсць гадоў пасля таго, як Юля знікла з ягонага жыцця. Можа, яна так змянілася, што ён яе і не пазнае? Але чаму ёй трэба мяняцца? Ці зможа ён наогул глядзець ёй у вочы? Нейкае незразумелае пачуццё віны блукала ў закутках ягонай душы. Віны за што, ён і сам не разумеў. Можа, наогул не трэба было ўсё гэта выдумляць — партрэты, успаміны, званкі? Ну, цяжка яму зараз, кепска. А каму зараз лёгка? У Міколы было моцнае жаданне развярнуцца на сто восемдзесят градусаў і паехаць назад, у майстэрню. Вярнуцца ў свой свет, дзе ўсё было акрэслена і зразумела і дзе ён адчуваў сябе ўпэўнена. Але ён уявіў, што цэлы вечар будзе ў майстэрні адзін, цішыня будзе зноў ажно звінець у вушах, і вяртацца расхацелася. У дадатак, Юля чакала яго ў пэўны час. І ён усё-такі пазваніў у дзверы.

Адкрыла яна сама. Твар быў знаёмы і разам з тым нейкі чужы, нібы час, які прайшоў пасля іхняй апошняй сустрэчы, дадаў да яе аблічча рысы, якіх ён не ведаў. Мікола працягнуў ёй букет ружаў, торт і па сваёй звыклай завядзёнцы пацалаваў руку.

Пакуль распранаўся ў прыхожай, ён меў магчымасць разгледзець сваю даўнюю знаёмую больш дэталёва. Яна сапраўды змянілася, праўда, не так, каб зусім не пазнаць. Але гэта была іншая жанчына. Не тая, з партрэта, якую ён памятаў. Да цяперашняй Юлі трэба было спачатку прызвычаіцца. Яны перайшлі ў залу, дзе было дзённае, а не штучнае асвятленне. Замест доўгіх валасоў — кароткая стрыжка. Прычоска маладзіла яе, але разам з тым, падалося яму, на твары ляжала нейкая няўлоўная пячатка, знак нечага пражытага, але схаванага ад старонніх вачэй.

— Што ты так глядзіш? Пастарэла? — спытала яна, спакойна і крыху халаднавата гледзячы яму ў твар. У думках Міколы мільганула, што гэтая халаднаватасць — проста сродак надзейна абараніць свой унутраны свет.

— Не! Ну што ты, Юля! — шчыра запярэчыў ён. — Проста я цябе крыху іншай памятаю...

Нешта зварухнулася ў яе вачах і твары. Ці гэта яму проста падалося?

— Мікола, праходзь.

Ён міжволі адзначыў, што яна называе яго Міколам, гэтаксама, як клічуць сябры. Раней ён быў для яе проста Коля. Але ж што ён хацеў?..

Мікола добра памятаў колер яе валасоў, які так доўга ён не мог перадаць на партрэце. Цяпер гэты колер страціў сваё залацістае адценне, ён пасвятлеў, пабялеў, набыўшы адценне спелага жыта. Але што хаваецца за гэтымі рысамі твару? Якія думкі, якія пачуцці? Ці рада яна яго прыходу ці не? — гэта ён ніяк не мог для сябе высветліць.

— Ты пасядзі, я зараз на кухні гарбату пастаўлю.

Яна выйшла. Мікола з цікавасцю азіраўся. Яшчэ ў той час, калі яны сустракаліся кожную суботу, а потым і штодня, Юліна жыццё, якое ішло незалежна ад яго, шмат у чым было для яго загадкай. Як яна жыла гэтыя гады без яго? Што рабіла? Што думала?

Дзверы суседняга з залай пакоя раптам шырока адчыніліся. На парозе стаяла дзяўчынка з такімі ж залацістымі, як некалі ў Юлі, валасамі.

— Мама! Ой... — дзяўчынка сумелася, бо не чакала ўбачыць у пакоі незнаёмага чалавека. Яна прыкрыла дзверы, пакінуўшы толькі шчылінку, праз якую і пазірала на незнаёмага чалавека цікаўным вокам.

— Насця, чаго ты схавалася? Выйдзі. Трэба павітацца! У нас госць...

Але дзяўчынка не спяшалася.

— Ай, мама! Я потым...

— Юля, я і не ведаў, што ў цябе дачка ёсць.

Яна неяк дзіўна на яго паглядзела:

— Ёсць...

— Мама, хадзі сюды, мне трэба табе нешта сказаць! — паклікала Насця з свайго пакоя, шырэй прыадчыніўшы дзверы.

— Не, гэта ты ідзі сюды, мне трэба табе нешта сказаць! — засмяялася Юля.

Мікола заўважыў, што калі Юлін позірк спыняўся на Насці, тая халаднаватасць, з якой яна размаўляла з ім, знікала, погляд яе цяплеў, нібы яна траплялa ў прастору, асветленую сонцам. Такой разнявоненай і душэўна спакойнай Юля была ў тыя часы, калі яны сустракаліся.

Насця, саступіўшы маці, падбегла, стала побач і, абхапіўшы яе рукамі за шыю, пачала нешта ціха гаварыць. Юля слухала яе з усмешкай. Мікола не разбіраў слоў.

— Насця, можа, ты мне раскажаш пасля? Я хачу трошкі пагаварыць з госцем... Ідзі пагуляй з лялькамі, даўно прыспеў час карміць іх.

— Я таксама хачу пагаварыць! — заявіла Насця і рашуча села маці на калені. Яна відавочна асвойвалася.

— Вось і рабі з ёй што хочаш! — засмяялася Юля.

Дзяўчынцы было гады чатыры, можа, пяць. Сціплае хатняе плацейка на ёй было вельмі мілае. І сама яна была нейкая мілая, усмешлівая. Залацістыя валасы заплецены ў дзве касы і аздоблены дзвюма капронавымі стужкамі. Іх колер быў вельмі блізкі да колеру вачэй. Гатовы партрэт! Мікола неадназова заўважаў, што малыя дзеці сваёй прыроднай грацыяй вельмі часта нагадваюць маладых звяркоў — пластычных, гнуткіх. Відаць было, што Юля і Насця бязмежна любяць і разумеюць адна адну. Гэтыя дзве істоты ўтваралі такую маляўнічую кампазіцыю, што Мікола пашкадаваў, чаму пад рукамі няма паперы і алоўка. Ён павёў вачыма вакол, нібы спадзяваўся дзе-небудзь паблізу знайсці патрэбную яму паперу і аловак, і ледзь не адкрыў рот ад нечаканасці.

На сцяне пакоя віселі партрэты, пейзажы, малюнкі, накіды... Цікава, чые? Ён устаў, падышоў і пачаў разглядаць. Чаму ён адразу іх не заўважыў? Можа, таму, што спачатку глядзеў на Юлю, потым на Насцю, і толькі потым на сцены?

— Юля, а чыё гэта?

Яна засмяялася:

— Маё!

Ён няўцямна паглядзеў на яе, потым на работы, потым зноў на яе.

— Чаму ты мне раней ніколі не паказвала?

— Мікола, гэта ж усё — аматарства... Для хатняга карыстання...

Мікола пачаў уважліва разглядаць. Сёе-тое было, бясспрэчна, вучнёўскае. Гэта ён бачыў прафесійным вокам. Але ж яна нідзе не вучылася! Некалькі алоўкавых партрэтаў Насці, аўтапартрэт, партрэт нейкага невядомага яму мужчыны, з выгляду досыць сімпатычнага. Побач пейзажы, напісаныя гуашшу. Мікола міжволі адзначыў тонкія колеравыя суадносіны, дакладнасць ліній. У работах быў настрой, эмацыянальнасць, пачуццё прасторы. Дык вось адкуль тыя трапныя заўвагі пра яго работы, якія здзіўлялі яго яшчэ падчас іхняга знаёмства!

— Юля, ты дарма не вучылася ў свой час. З цябе б атрымаўся мастак. Гэта я ўпэўнена магу сцвярджаць. І дарма не паказала свае работы. Яшчэ тады, раней...

— Я ведаю, як прафесіяналы стаўяцца да аматараў! З іроніяй... — сказала яна з усмешкай.

— Не...

З Насцяй на руках Юля была нечым няўлоўна падобная на Алену, жонку Алега. Чым? Тым, што абедзве маці? Усё ж Алена — жонка сябра, а Юля — свая, родная, ягоная. Дакладней, некалі была ягонай. А цяпер чыя?

Яны сядзелі на кухні, пілі гарбату, Насця гуляла побач са сваімі лялькамі, калі весела дзынкнуў званок і нехта пачаў адкрываць ключом уваходныя дзверы. Насця кінула сваіх лялек і выбегла ў прыхожую: "Татка прыйшоў! Татка прыйшоў!"

Міколаў настрой сапсаваўся канчаткова. Яна нічога не сказала яму пра мужа. І ён маральна не быў гатовы да сустрэчы з ім. Спачатку дачка, потым муж... Вядома, Мікола не цешыў сябе спадзяваннямі, што з таго часу, як яны не бачыліся, Юля сядзіць да акенца і яго чакае. Але яму было б непараўнальна лягчэй жыць і спадзявацца на тое, што ў глыбіні душы яна па-ранейшаму любіць яго, а яе муж, калі ўжо ён ёсць, ні ў якое параўнанне з ім, такім таленавітым і вядомым, не ідзе. Але калі Юлін муж зазірнуў на кухню, Міколу было дастаткова адзін раз глянуць на яго твар — малады, сімпатычны, асветлены добразычлівай усмешкай, каб пераканацца, што ўсе яго спадзяванні — марныя.

Юля паднялася з табурэткі.

— Алёша, пазнаёмся. Гэта Мікалай Пятровіч, мастак, мой даўні знаёмы.

Мікола быў удзячны Юлі, што яна прадставіла яго менавіта такім чынам — крыху афіцыйна.

— Аляксей, мой муж.

Мужчыны павіталіся за руку.

— Юля, ты мяне здзіўляеш! Як ты госця частуеш? Давай віно на стол, бутэрброды... Адзначым сустрэчу. А мы пакуль што з Насцяй мульцікі разам паглядзім...

— Тата! — заляцела на кухню Насця. — Хутчэй! Фільм пачынаецца, а цябе няма...

— Ну, пайшлі, страказа...

Гэтае слова "страказа", сказанае Аляксеем так проста і натуральна, з такой шчырай радасцю і прыхаваным замілаваннем, нібы апякло Міколу. Яму зрабілася крыўдна. Калі б Юлін муж аказаўся брыдкі з твару, ці нашмат старэй за яе, ці не надта выхаваны — бурклівы і змрочны, Міколу было б лягчэй дыхаць. І спадзявацца, што перамога, хоць бы маральная, на яго баку.

Мульцікі скончыліся, і Аляксей далучыўся да іхняй кампаніі.

Мікола здагадваўся, што ў прысутнасці двух гэтых мужчын Юля адчувае сябе крыху няёмка, хоць знешне гэта было ніяк не відно. Яна больш маўчала і з цікавасцю слухала іх дваіх.

Спачатку, калі яны толькі збіраліся сесці за стол, Міколу карцела проста збегчы, прыдумаўшы якую-небудзь нібыта вельмі важную прычыну. Сядзець у Юлінай кватэры, на яе кухні, побач з ёй, некалі каханай жанчынай, такой блізкай — працягні руку, дакранешся! — і такой далёкай, як ніколі раней недасяжнай, сядзець побач з яе мужам, слухаць яго, ветліва ўсміхацца, пра нешта гаварыць і рабіць выгляд, што ён — яе стары знаёмы, якому вельмі прыемна іх абодвух пабачыць, было душэўнай пакутай.

Але трымала яго толькі спадзяванне, што падчас гэтай гаворкі неяк усплывуць самі па сабе дэталі ці акалічнасці Юлінага жыцця, калі яно ішло без Міколы і пра якое ён не меў ніякага ўяўлення.

Натуральней за ўсіх у гэтай сітуацыі трымаў сябе Аляксей. Трымаў, як гасцінны гаспадар. Мікола думаў: няўжо ён зусім не здагадваецца, што паміж ім і Юляй раней былі нейкія адносіны? Можа, Юля нічога яму не казала? Ён так добра выхаваны, што выгляду не падае, ці цалкам ёй давярае?

Пасля двух-трох кілішкаў віна разгаварыўся і Мікола. Не маўчаць жа было яму зусім! Ён расказваў пераважна пра свае замежныя падарожжы, пра ўражанні і розныя смешныя ці нечаканыя выпадкі, якія здараліся з ім у розных еўрапейскіх гарадах. Праўда, Мікола старанна абмінаў той факт, што побач з ім у гэтых падарожжах была Ала. Ягоная апошняя каханка. Цяпер, праўда, ужо былая. Ён расказваў так — а расказваць Мікола любіў, з мноствам дэталяў, убачаных назіральным вокам мастака, — што ў рэшце рэшт і сам паверыў сабе і быў перакананы, што падарожнічаў адзін, і ніякай Алы побач з ім не было.

Увогуле Аляксей спадабаўся Міколу. Але неяк сам па сабе, не ў сувязі з Юляй. Як чалавек, а не як гаспадар гэтай хаты і Юлін муж. Напэўна, Мікола нікога не мог бы ўспрыняць у такой ролі. Лепш, каб гэтае месца наогул заставалася незанятым.

Калі развітваліся, Аляксей запрашаў Міколу заходзіць да іх яшчэ, бо ў іх няшмат знаёмых мастакоў. І Мікола з радасцю, бы тапелец за саломіну, ухапіўся за гэтую прапанову. Бо гэта была яшчэ адна магчымасць убачыць Юлю. Але за час свайго візіту ён так і не зразумеў, ці рада яна яго бачыць, як яна ставіцца да яго зараз і ці захоча яна, каб ён з'явіўся ў іхняй кватэры і іхнім жыцці яшчэ раз... З Юляй ён так і не пагаварыў. Яна засталася домам з цёмнымі вокнамі.

Мікола і сам запрашаў іх абодвух калі-небудзь прыйсці ў ягоную майстэрню, каб ён мог паказаць ім свае работы, але ў глыбіні душы ведаў, што Юля туды ніколі больш не прыйдзе, і што назаўтра, калі эйфарыя, выкліканая ў душы віном і шчырай размовай, ападзе, рэчаіснасць будзе ўспрымацца інакш, бязлітасна-рэальнай, і Аляксеем, і ім, Міколам. Можа стацца так, што і ён да іх не прыйдзе, і яны да яго.

Міколу зрабілася шкада, што ён цяпер не мае ніякага дачынення ні да Юлі, ні да яе дачкі, ні да іхняга цяперашняга жыцця. Ён выйдзе з гэтай кватэры, і яны не будуць сумаваць без яго, не будуць чакаць, калі ён вернецца... І зноў, як некалькі дзён назад, дома ў Алега, ён горка пашкадаваў, што ў яго няма такой дачкі. Чаму менавіта дачкі, а не сына, ён і сам не ведаў.

## ...Яго вялікасць Акцёр

**Пра дзевяностыя гады яшчэ будуць казаць, як пра гады адраджэння прыватных антрэпрызаў, дзе валадарыць яго вялікасць Акцёр. Адна з такіх антрэпрызаў адкрылася спектаклем "Пяць вечароў" А. Валодзіна ў пастаноўцы Мадэста Абрамава. Памяшканне — спачатку Маладзёжнага тэатра эстрады, потым — Дома ветэранаў. Уладальнік — Беларускі камерцыйны універсітэт кіравання. Удзельнікі — напраўду прызнаныя "зоркі", Вольга Клебановіч, Аляксандр Ткачонак, Уладзімір Шэлестаў і маладзейшыя Алена Цвяткова, Лілія Абрамава, Андрэй Кізіно.**

**Антрэпрыза як такая не мае сталай акцёрскай трупы. Збіраюцца акцёры, рэжысёры, мастакі, робяць спектакль і пачынаюць яго пракатваць. Паводле Мадэста Абрамава, антрэпрыза "Тэатральныя зоркі" мусіць быць не проста тэатрам, а так званым "тэатрам зорак", дзе б у цэнтры ззяла бліскучая драматычная "зорка". Атачэнне Вольгі Клебановіч гэтым разам склалі акцёры Акадэмічнага рускага тэатра Беларусі і Тэатра юнага гледача.**

**— Калі ўзнікла ідэя прыватнага тэатра, — распавядае Вольга Клебановіч, народная артыстка Беларусі, лаўрэат Дзяржпрэміі, — калі рэжысёр Мадэст Абрамаў прапанаваў п'есу "Пяць вечароў" і галоўную ролю, якая актрыса змагла б стрымацца? Валодзін! Люблю гэтага драматурга і ягоных жанчын-гераінь. Бо гэта ж стыль рэтра: ёсць магчымасць сённяшняй моладзі дакрануцца да залатога запасу літаратуры... Мы мяркуем, што гэта лепшы твор пра каханне ў савецкай драматургіі.**

**Беларускі камерцыйны універсітэт кіравання даў магчымасць спраўдзіцца сапраўднаму мастацтву, — калі спектакль ствараецца не для гледача, а дзеля яго, у імя яго. Калі, седзячы ў зале і ўслухваючыся ў трапяткія паўзы, якія так цудоўна сыгралі акцёры і рэжысёр, злучаючы імі нашы душы, раптам адчуваецца, кажучы словамі Валодзіна, "нібыта ў грудзі стукнуў звон", што "з душы пачнуць крэсіцца іскры", — тады і мэта тэатра дасягнутая. Тэатра, які ўдзельнічае ў нашым жыцці і дорыць надзею.**

**Нэлі КРЫВАШЭЕВА**

**АД РЭДАКЦЫІ. У паспяховасці антрэпрызы "Тэатральныя зоркі" пераконваюць і яе нядаўнія, лютаўскія гастролі ў Гродне: зала Гродзенскага абласнога драматычнага тэатра не пуставала.**

## Музыка чатырох сэрцаў

**Чаканы падарунак атрымалі ў пачатку лютага прыхільнікі знакамітай ліверпульскай чацвёркі. Людзі, якія пранеслі праз усё жыццё любоў да простых і геніяльных мелодый "бітлоў", якія разумеюць, што музыка "Бітлз" засталася навекі жывой, змаглі пачуць яе зноў у праграме Дзяржаўнага канцэртнага аркестра Беларусі пад кіраўніцтвам М. Фінберга.**

**Прэм'ера "Сімфоніі "Бітлз" адбылася ў сталічнай філармоніі. Аранжыраваў і пераствaрыў неўміручую музыку Уладзімір Ткачэнка. "Сімфонія "Бітлз" — гэта яго сапраўдны поспех і поспех выканаўцаў. Публіка, якая складалася не толькі з тых, для каго з 60-х гадоў "Бітлз" застаецца стылем жыцця, глытком свежага паветра ў гэтым душным свеце, але і для больш маладога пакалення бітламанаў, для якіх "Бітлз" — класіка рок-н-рола, цалкам запоўніла канцэртную залу і ладзіла музыкантам гарачыя авацыі.**

**"Сімфонія "Бітлз" гучала без перапынку каля гадзіны, і ўвесь гэты час немагчыма было адарваць позірк ад сцэны, дзе ў моры танцуючых агнёў выканаўцы адмыслова ткалі незвычайнае музычнае палатно, віртуозы-салісты то на ўдарных, то на духавых інструментах па-майстэрску імправізавалі. Так прыемна ведаць, што на Беларусі ёсць людзі, якія не баяцца ўвасобіць свае творчыя фантазіі ў рэальнае жыццё...**

**Дар'я ЛІЗУНКОВА**

ГАСЦЁЎНЯ

# Чын музыколага на "гукавым полі"

***Ад пільнага вока лімаўскага чытача, пэўна ж, не схавалася паведамленне пра "жанчыну года". Гэткім гучным тытулам ганараваў вядомы Кембрыджскі цэнтр беларускую музыказнаўцу, даследчыцу нашай культурнай спадчыны Вольгу ДАДЗІЁМАВУ. Паведаміўшы спадарству прыемную навіну, мы паабяцалі ў хуткім часе надрукаваць гутарку з "жанчынай года". Што і робім сёння.***



**— Вольга Уладзіміраўна, на Беларусі вас ведаюць як даследчыцу, энтузіяста, чыімі намаганнямі з забыцця вернуты цэлыя пласты нашай музычнай спадчыны, як аўтарку некалькіх кніг, дзесяткаў артыкулаў, выдадзеных у розных краінах, мноства радыё- і тэлеперадач. А як даведаліся пра вашую працу ў Кембрыджскім цэнтры?**

— Яшчэ летась маю кандыдатуру сярод іншых прапанаваў Кембрыджу наш Скарынаўскі цэнтр, які і накіраваў неабходныя матэрыялы ў Англію. А там, магчыма, падтрымалі брытанскія калегі, якім я раней перадавала свае публікацыі для папаўнення звестак пра старадаўнюю музычную культуру Беларусі. У Лондане зараз рыхтуецца перавыданне сусветна вядомай шматтомнай энцыклапедыі Нью Гроу, і мне давялося паклапаціцца, каб раздзел, прысвечаны гісторыі айчыннага музычнага мастацтва, быў максімальна поўным.

Увогуле я не першая з музыколагаў, хто атрымаў такое званне. Калі памятаеце, колькі гадоў таму яно было нададзена вядомай этнамузыказнаўцы Зінаідзе Мажэйцы, потым — рэктару універсітэта культуры Ядвізе Грыгаровіч, чыя дзейнасць таксама звязана з музычным мастацтвам...

**— Сёння падаецца, што ваш голас заўсёды гучаў па радыё, што па кнігах і падручніках Вольгі Дадзіёмавай заўсёды вучыліся студэнты і ліцэісты. А між тым, сваю працу вы распачалі не так даўно. Ці памятаеце, калі ды як?**

— Калі хочаце атрымаць дакладны адказ, пагартайце падшыўкі "ЛіМа" пачатку 80-х гадоў. Там знойдзеце мае першыя публікацыі, прысвечаныя тагачаснаму музычнаму жыццю. Крыху пазней, у 1985-м, лёс прывёў мяне да выдатнага спецыяліста ў галіне музычнай навукі — Іны Дзмітрыеўны Назінай, якая і прапанавала заняцца вывучэннем гісторыі музычнай культуры гарадоў Беларусі 18 ст. Шчыра кажучы, у той час я не магла нават уявіць, наколькі складанай будзе праца над тэмай, распрацоўка якой запатрабавала франтальных пошукаў у бібліятэках і архіўных сховішчах самых розных краін. Сапраўды, сёння ўяўляецца, што наша старадаўняя музыка заўсёды гучала на канцэртах, па радыё і тэлебачанні. А тады, калі распачыналася мая праца, мала хто мог уявіць, што, скажам, у эпоху класіцызму беларускае музычнае мастацтва развівалася ў агульнаеўрапейскім рэчышчы, што яно мела пэўныя здабыткі і ўзбагачала сваімі фарбамі еўрапейскую музычна-культурную палітру.

Нярэдка, памятаю, здаралася, што я вярталася з далёкіх вандровак літаральна ні з чым, і толькі інтуіцыя, навуковыя прадбачанні ды нястомная праца маёй кіраўніцы, якая і пазначыла канкрэтныя шляхі пошукаў, і распрацавала арыгінальную канцэпцыю работы, падтрымлівалі тады. А яшчэ дапамагалі даследаванні гісторыкаў сумежных мастацтваў — перш за ўсё Адама Мальдзіса, на старонках чыіх кніг я знайшла шмат "падказак", і Гурыя Барышава, працы якога таксама поўніліся калямузычнымі рэаліямі Беларусі 18 стагоддзя.

**— Скажыце, калі ласка, а чаму, на ваш погляд, у 50-я, 60-я гады старадаўняя музыка Беларусі не вабіла даследчыкаў?**

— Перш за ўсё, на працягу доўгіх гадоў непераадольнай перашкодай для даследаванняў было амаль поўнае знішчэнне на Беларусі, а таксама цяжкадаступнасць раскіданых па свеце музычна-гістарычных крыніц, якія дазволілі б рэканструяваць карціну развіцця айчыннага музычнага мастацтва. Адшукаць і сабраць іх у часы закрытых межаў было фізічна немагчыма.

Другой, не менш істотнай складанасцю ў вывучэнні нашай музычна-гістарычнай спадчыны сталася адсутнасць традыцый даследавання той яе сферы, што была звязана з гарадской культурай, з духоўнымі набыткамі інтэлектуальнай эліты, вышэйшых сацыяльных пластоў. З каштоўнасцямі, калісьці штучна выведзенымі па-за межы даследаванняў як "класава чужыя народным масам".

І, нарэшце, трэцяй акалічнасцю, якая замаруджвала вывучэнне айчыннай музычна-прафесійнай культуры, сталася нераспрацаванасць адпаведнай методыкі, што дазволіла б патлумачыць і асэнсаваць спецыфічнасць працэсу станаўлення гэтай культуры. Справа ў тым, што мастацтва і культура Беларусі не маглі калісьці развівацца ў адпаведнасці з той "мадэллю", якая склалася на прыкладзе культур такіх краін, як Італія, Францыя, Германія, Расія, — краін, адзначаных пэўным этнічным, канфесійным і дзяржаўным адзінствам. І нават пры параўнанні з культурамі Чэхіі, Украіны ці Польшчы, — краін, таксама ў пэўныя перыяды пазбаўленых самастойнасці, узнікаюць відавочныя разыходжанні. Разыходжанні, якія вымагаюць адпаведных методык пры сваім вывучэнні.

**— А вось зараз, калі ўжо шмат зроблена, калі столькі музычных помнікаў знойдзена і вернута ў кантэкст сучаснай культуры, ці можна лічыць, што асноўныя цяжкасці на шляху даследчыкаў пераадолены, а галоўныя праблемы вырашаны?**

— Што вы! З адкрыццём кожнага новага факта праблем не робіцца менш. Напрыклад, цяпер, калі ўжо вядомыя імёны і творы многіх кампазітараў Беларусі 18—19 стст., паўстала пытанне пра вывучэнне шляхоў фарміравання нашай творчай школы.

У другой палове 18 ст., калі актывізаваўся працэс складання нацыянальных школ ва Усходняй Еўропе, кампазітарскае асяроддзе Беларусі фарміравалася пераважна з аматараў (адна з прычын таго — разбурэнне ў папярэдніх, ваенных дзесяцігоддзі пэўнай культурнай "інфраструктуры", неабходнай для росту музычна-прафесійных сіл). Яны ж, прадстаўнікі заможных магнацкіх родаў, — Міхал Казімір ды Міхал Клеафас Агінскія, Мацей Радзівіл ды інш., якія добра ўсведамлялі сваё этнічна-беларускае (ці як казалі тады — ліцьвінскае) паходжанне, не маглі яшчэ ва ўласнай мастацкай творчасці абаперціся ні на мову свайго народа, ні на ягоную музычную спадчыну. Ні, тым болей, дэкларавць і здзяйсняць захады па ўтварэнні беларускай нацыянальнай кампазітарскай школы. Бо, як вядома, культура многіх пакаленняў беларускай арыстакратыі фарміравалася ў складаных этна-канфесійных варунках, адзначаных узмацненнем спачатку паланізацыйных, а потым — і русіфікацыйных тэндэнцый і традыцый, якія з-за сваёй блізкасці не адштурхоўваліся (як у выпадках з іншымі, палярнымі культурамі, адзначанымі, так бы мовіць, "каланіяльным сіндромам", ці пэўным "імунітэтам", што дапамагаў захоўваць сваё ў недатыкальнасці), а спалучаліся з мясцовымі традыцыямі, выцясняючы іх у адных з'явах (напрыклад, у мове) і перапляталючыся і нават узбагачаючыся з імі на ніве беларускай культуры — у іншых (напрыклад, у мастацкай творчасці).

Але факт застаецца фактам: у той час, калі славянскае музычнае мастацтва беспамылкова абрала фальклорны элемент у якасці "маркіруючага" нацыянальную прыналежнасць да той ці іншай школы, нашы кампазітары не маглі адразу паставіцца да творчасці свайго народа (якую, магчыма, ведалі і шанавалі) як да крыніцы нацыянальнага ў музыцы. Яны, дарэчы, надоўга засталіся аддзеленымі ад асноўнай масы насельніцтва не толькі саслоўнымі ды маёмаснымі бар'ерамі, як дваранства ўсіх краін, але і моўнымі ды канфесійнымі. І шлях іхні да нацыянальнага самавызначэння ў музычным мастацтве быў шляхам пераадолення гэтых бар'ераў. Ён вёў спачатку да беларускіх сюжэтна-вобразных рэалій (як у "Агатцы" Голанда — Радзівіла). Пасля — да адаптацыі, "перакладу" народных тэкстаў і мелодый на еўрапейскую мову (як у "Хатніх спеўніках" Манюшкі). І толькі потым — да цытавання і засваення аўтэнтычных фальклорных элементаў (як у творчасці Абрамовіча ды Ельскага). Але вельмі адметна, што патэнцыяльная сіла нацыянальна-творчага працэсу ўсё ж была вельмі вялікая. І хутка "падключаліся" да гэтага працэсу, але на глебе іншых культур, вядомыя кампазітары, што сфарміраваліся як творцы на Беларусі, — Восіп Казлоўскі ды Станіслаў Манюшка.

Дарэчы, у асобах і творчасці названых ды іншых музыкантаў вельмі яскрава выявіліся некаторыя прынцыповыя рысы нашай культуры-донара, перакладчыка, што творча пераасэнсоўвае, пераплаўляе ў сабе пэўныя элементы і перадае іх іншым культурам... Зрэшты, усё гэта — прадмет асобнай гаворкі, спецыяльных даследаванняў, якія грунтуюцца перш за ўсё на Яго Вялікасці Факце і рухаюцца ў кірунку асэнсавання фактаў і вызначэння тыпалагічных асаблівасцей культурнай прасторы, дзе тыя факты паўсталі. Але рэканструкцыя тэксту культуры немагчымая і без вырашэння праблем кантэкстуальнага характару, што вядуць да акрэслення месца нашай культуры сярод іншых, яе сувязей з іншымі...

А вы кажаце — вырашаныя пытанні...

Увогуле, падаецца, мы, гісторыкі старадаўняй беларускай музыкі, яшчэ знаходзімся на пачатку навуковага шляху, і спатрэбіцца шмат намаганняў, каб стаць упоравень з даследчыкамі іншых галін мастацкай творчасці. Аднак у нас ёсць і пэўныя перавагі: мы маем магчымасць адразу адчуць, а дакладней — пачуць вынікі сваёй працы. Сёння, калі творчае аб'яднанне "Беларуская Капэла" мэтанакіравана і плённа працуе на аднаўленне нашай музычнай даўніны, большасць музычных помнікаў, вернутых намаганнямі даследчыкаў (да якіх адносяцца і арганізатары "Капэлы" — Віктар Скорабагатаў, Ганна Каржанеўская), адразу ўводзіцца ў сучаснае "гукавое поле". А гэта — з'ява лёсавызначальная для культуры, бо засваенне спадчыны ідзе натуральным шляхам — праз душы і сэрцы слухачоў, праз духоўны свядомасць грамадства.

**— Вольга Уладзіміраўна, мы прызвычаіліся бачыць вас на тэлеэкране ў асветніцкіх перадачах — летуценную, узнёслую, рамантычную, з чароўнай усмешкай... Складаецца ўражанне, што ўсё ваша жыццё — несканчонае свята, поўнае творчых здзяйсненняў, знаходак, адкрыццяў...**

— Вы, напэўна, казалі б інакш, калі хаця б раз убачылі мяне за гадзіну да здымак, калі з вялізнымі торбамі (у іх — адзенне да праграм, часцяком пазычанае ў сяброўак), я імчуся на аўтобус ці ў метро. Дарэчы, ведаеце, пра што падумалася зараз? Нездарма існуе асобная намінацыя — "Чалавек года", якая быццам аддзяляе таго Чалавека ад не-чалавека, гэта значыць ад жанчыны. Бо сапраўды, жаночае жыццё, а дакладней, побыт — бясконцы ланцуг прыніжэнняў, пакут і раздражняльных дробязяў, якія ганьбяць чалавечую годнасць. Застаецца толькі хавацца ад іх за сцяной творчасці, працы. Але ўсё роўна — свае абавязкі мусіш выконваць, і калі імкнешся зрабіць нешта сур'ёзнае ў навуцы ці ў мастацтве — непазбежна ахвяруеш сваім здароўем, шчасцем

блізкіх... Летась, калі сама цяжка хварэла, адчула гэта асабліва востра, ды й сёння лячу над безданню... Шчыра кажучы, часам гатовая аддаць усе свае набыткі за здароўе дачкі... І за ўсмешку маці, якую ўжо не вернеш: нядаўна яе, самага вялікага чалавека ў маім жыцці, не стала...

**— Вы працягваеце працаваць...**

— Так, бо інакш не магу. Ведаеце, яшчэ з маленства ў маёй свядомасці склаўся нейкі стэрэатып: жыць — гэта значыць творча працаваць: пісаць, ствараць, шукаць. Першыя ўражанні, якія прыгадваю з дзяцінства, — постаць бацькі (ён быў журналістам і пісьменнікам) за пісьмовым сталом, побач маці, якая рэдагуе яго работы... Потым — свае заняткі на фартэпіяна, якія, магчыма, і прывучылі да штодзённай шматгадзіннай працы. Дарэчы, мне вельмі пашчасціла на настаўнікаў музыкі. Першай была Арыядна Мікалаеўна Гужалоўская, імя якой даўно ўжо сталася сімвалам высокага педагагічнага майстэрства. Потым, у кансерваторыі, — Таццяна Георгіеўна Валадзько, таксама цудоўны педагог, з якім усе складанасці падаваліся эфемернымі. А яшчэ — Эдзі Майсееўна Тырманд. Сапраўдны Мастак, кампазітар, яна ў класе канцэртмайстарскага майстэрства патрабавала перш за ўсё ўвагі да літары і духу выконваемага твора...

Увогуле за 17 гадоў вучобы і 15 гадоў выкладання курса фартэпіяна я пераканалася, што самае складанае — ігра на раялі. Нездарма гэта заўважыў яшчэ Генрых Нейгауз. Нават у параўнанні з навуковай працай выканальніцтва — больш складаны, а дакладней — менш удзячны від дзейнасці. Бо плён шматгадовай працы можа быць зведзены на нішто падчас выступлення на сцэне. У навуцы ж твае намаганні "абароненыя", замацаваныя трывалаcцю друкаванага слова. Хаця яно ў сваю чаргу назаўсёды "прыпячатвае" няўдалыя думкі, выказванні. Колькі разоў даводзілася абвяргаць свае ж погляды, якія карэкціраваліся ў працэсе пошукаў, колькі з надрукаванага хацелася потым перакрэсліць...

**— Але, як бачыце, вашу незадаволенасць сабой нібыта абвяргаюць навуковыя ды пачэсныя званні...**

— Не прыніжаючы іх годнасці, скажу, што галоўная ўзнагарода — гэта сам працэс творчасці, які дае ні з чым непараўнальныя пачуцці. Дзеля іх — даследаванняў, пошукаў (нават калі яны не атрымаюць прызнання) варта жыць на зямлі.

**— Ведаю, што вы шмат ездзіце па свеце ў пошуках музычна-гістарычных матэрыялаў. Можа, у хуткім часе трапіце і ў Англію?**

— Сёння нават мара пра "туманны Альбіён" — занадта вялікая раскоша. Хаця ў Лондане існуе цудоўная беларуская бібліятэка, а архівы, магчыма, хаваюць шмат цікавых матэрыялаў. Але пакуль трэба, як падаецца, працягваць даследаванні тых фондаў, якія ўжо выяўлены ў больш блізкім замежжы — у Вільні і Варшаве, Маскве і Пецярбурзе. Гэта толькі гаворыць, што "рукапісы не гараць", яшчэ і як гараць! Прыгадваю пажар у Пушкінскім Доме, што знішчыў многія дакументы фонду Віленскага універсітэта. Памятаю таксама, як літаральна на маіх вачах рассыпаліся рукапісы з фонду Дабрахотава. Словам, трэба спяшацца...

**— А зараз апошняе, традыцыйнае пытанне: пра творчыя планы. Пытанне, адказ на якое, думаю, чакаюць усе аматары старадаўняй музыкі. Бо ад вашых планаў шмат у чым залежыць увасабленне мары многіх пра вяртанне забытых старонак беларускай музычнай даўніны.**

— Думаю, сёлета мы зможам парадаваць прыхільнікаў старадаўняй музыкі выхадам у свет клавіра нашай славутай "Агаткі", нясвіжскай оперы 18 ст. (кампазітар Ян Голанд, лібрэта Мацея Радзівіла ў перакладзе Уладзіміра Мархеля). Вакол яе было столькі размоў, і музыка яе палюбілася ўжо слухачам. Тэлегледачоў чакаюць сустрэчы з "Галасамі мінуўшчыны", дзе прагучаць як знаёмыя, так і нядаўна знойдзеныя творы кампазітараў Беларусі, а таксама замежная музыка, якая калісьці выконвалася на нашай зямлі.

Наперадзе — і новыя навуковыя распрацоўкі, якія, спадзяюся, выведуць на цікавыя матэрыялы, а тыя ў сваю чаргу — на новыя думкі ды канцэпцыі. І, канешне, працягнецца праца са студэнтамі ды аспірантамі — праца, праз якую вяртаю пазыкі сваім настаўнікам і гартую веру ў беспярэпыннасць працэсу асваення нашай музычнай мінуўшчыны.

**Гутарыў Аляксандр МІЛЬТО**

*Фота Г. ЖЫНКОВА*

ВАНДРОЎКІ

# ...А Сараева адраджаецца культурай

***Імя дырыжора Пятра Вандзілоўскага нашы меламаны звязваюць з канцэртнай дзейнасцю двух калектываў: Акадэмічнага сімфанічнага аркестра Беларусі ды Мінскага аркестра духавых інструментаў "Няміга". Апошнім часам у творчым жыцці маэстра адбылося некалькі адметных падзей: Пётр Вандзілоўскі ўзначаліў кафедру аркестравага дырыжыравання Беларускай акадэміі музыкі, яму давялося пабываць з гастролямі ў Злучаных Штатах Амерыкі, а таксама ў Босніі ды Герцагавіне, зрабіць шэраг фондавых запісаў з аркестрам "Няміга" на Беларускім радыё.***

**— Пётр Віктаравіч, я ўжо чуў, што вашы гастролі ў Босніі ды Герцагавіне прайшлі вельмі плённа. Вы там супрацоўнічалі з цікавымі музыкантамі, гралі складаны рэпертуар. Але ж вядома, што з горадам Сараева звязана шмат падзей драматычных...**

— Зразумела, успамінаць і распавядаць хочацца пра светлае ды ўзнёслае. Тым болей, што Сараева на мяне зрабіла вельмі моцнае станоўчае ўражанне менавіта станам сваёй культуры. Таму што нягледзячы на ўсе праблемы, якія там засталіся ў пасляваенны час, цяпер укладаюцца проста агромністыя сродкі ў аднаўленне культуры. Напрыклад, у трох канцэртах з чатырох, якія правёў я, былі запрошаныя музыканты з суседніх дзяржаў, з Італіі, са Славеніі, з Харватыі. Для гаспадароў гэта — вялікія выдаткі, затое аркестр заўжды выходзіць у поўным складзе і заўжды ўражанне вельмі добрае.

Працаваў я там з сімфанічным аркестрам Сараеўскай дзяржаўнай філармоніі, мелі чатыры праграмы, адна, праўда, для струннага складу. Сярод салістаў былі наш зямляк віяланчэліст Яўген Ксавер'еў, (мы з ім ігралі До мажорны Канцэрт Гайдна і Канцэрт Ля мінор Сен-Санса), а таксама сусветная "зорка" скрыпач Максім Венгераў.

**— А вашы амерыканскія гастролі?**

— Вельмі моцнае ўражанне ад Злучаных Штатаў — якасць тамтэйшых духавых аркестраў. Неверагодна, але ў кожным універсітэце, у кожнай школе (кшталту нашых агульнаадукацыйных) ёсць свой аркестр. Універсітэты маюць супер-якасныя калектывы (нават не адзін), яны граюць на выдатных інструментах, у іх фантастычна вялікія нотныя бібліятэкі... Мне давялося двойчы працаваць з духавымі аркестрамі — гэта неверагодная якасць і вялікая асалода!

**— Наш аркестр "Няміга" таксама грае на дыхтоўным узроўні, і рэпертуар яго, дзякуючы, напэўна, і вам, пашыраецца. Прынамсі, ён уключае цяпер творы вядучых амерыканскіх кампазітараў-сімфаністаў: Джона Уільямса, Уэслі Таўэра...**

— Мушу не толькі пагадзіцца, але і падкрэсліць: сапраўды, у аркестры "Няміга" ёсць вельмі сур'ёзныя музыканты, суперкласа! І працаваць з нашым аркестрам — вялікае задавальненне. Быў пэўны перыяд станаўлення "Нямігі", калі даводзілася граць усё, што трапіць пад руку. А цяпер — зусім нармальная, на мой погляд, сістэма творчай працы, калі аркестр проста можа і павінен быць падключаны да сусветнай бібліятэкі. Трэба шукаць гэтыя магчымасці.

З кампазітарам Уэслі Таўэрам нас звёў лёс колькі гадоў таму — у 94-м. Сталася так, што адно аддзяленне ў канцэрце дырыжыраваў ён сваю музыку, а другое — я, французскую музыку. Мы з ім пасябравалі, нягледзячы на розніцу ва ўзросце — ён старэйшы за мяне і больш дасведчаны. З "Нямігай" я ўжо не ўпершыню зрабіў запіс ягонай музыкі. Цікавы кампазітар, працуе ў канструктыўнай манеры, часта скарыстоўвае цікавыя тэхналогіі, п'есы ягоныя гучаць эфектна.

**— Можна толькі пажадаць, каб рэпертуар "Нямігі" быў і разнастайны, і арыгінальны, нацыянальна адметны і далучаны да сусветных музычных набыткаў...**

— Дарэчы, сёлета спаўняецца сто гадоў з дня нараджэння вялікага амерыканскага кампазітара Джорджа Гершвіна і плануецца вялікая канцэртная праграма "Нямігі" ў двух аддзяленнях, дзе будуць сабраны лепшыя ягоныя творы. Спадзяюся, што будзе магчымасць зрабіць і запіс гэтай праграмы на радыё.

**— Хай спраўдзяцца ўсе вашы творчыя планы, маэстра!**

**Алесь ВОЛЬША**

ТЭАТР

# Куды падзеўся мядзведзь?..

***Другі сезон працуе эксперыментальная лабараторыя-майстэрня тэатраў лялек рэспублікі, створаная Міністэрствам культуры на базе Дзяржаўнага тэатра лялек Рэспублікі Беларусь у верасні 1996 года. Кожны месяц па чарзе паказваюць свае работы лялечнікі рэспублікі.***

У сёлетнім студзені гледачы і тэатральная грамадскасць пазнаёміліся з новай работай Мінскага абласнога тэатра лялек "Батлейка" (што ў Маладзечне) — спектаклем "Маша і Мядзведзь" па п'есе В. Швэмбергера (прэм'ера адбылася ў чэрвені 1997 г.). Усім вядомая руская народная казка ў інтэрпрэтацыі тэатра набыла рысы фантазіі на тэму беларускай батлейкі (рэжысёр Зміцер Нуянзін, мастак Валерый Рачкоўскі). Сцэнічная прастора ў вырашэнні В. Рачкоўскага нагадвае батлейкавую скрыню, за дзвярыма якой разгортваецца сцэнічнае дзеянне. Да спектакля падабрана народная музыка.

З'яўляюцца двое артыстаў з куфэрачкам, ставяць яго на ээдлік і пачынаюць распавядаць казку, адначасова дастаючы гліняныя лялькі Дзеда (А. Барбаш), Бабы і Машачкі (Т. Паўлючук). Артысты абазнана працуюць з лялькамі, паволі ўводзяць у прапанаваныя рэжысёрам абставіны, але...

Адчыняюцца дзверы-заслона, а за ёй ужо не гліняныя лялькі, а кійковыя, зусім не падобныя на тыя, з якіх пачалося дзеянне. І перад намі ўжо — звычайны, шараговы шырмавы спектакль... Можна пагадзіцца з тэатразнаўцам Т. Ратабыльскай, што ў спектаклі заяўлены тры планы, ніякім чынам не звязаныя між сабой логікай пабудовы сцэнічнага дзеяння. Першы план — гэта з'яўленне артыстаў і гліняных лялек з куфэрка. Узнікае адчуванне казкі, цікавасць да рэжысёрскага ходу. Але хутка гэты план забываецца і дзеянне пераносіцца за шырму, дзе мы бачым зусім іншых лялек, зусім іншую прыроду сцэнічнага існавання персанажаў. Перад вачыма заднік з намаляваным бярозавым лесам, і ў цеснай сцэнічнай прасторы "блукае" вялікая па памерах кійковая лялька Машачкі. Яна старaецца перакрычаць усіх у тым, што збірае ягады. Трэці план больш удалы, але і ён існуе сам па сабе: гэта інтэр'ер Мядзведзевай хаты. Інтэр'ер сонечны, цёплы: гэта і бярозавыя стол з крэслам, і печ, і драўляная лава, і вышчарбленыя скрыпучыя дзверы. Але дачыненні персанажаў зусім не распрацаваныя, сцэнічнае дзеянне замаруджана, перанасычана бытавымі дэталямі. Замест казачнай Машы перад намі паўстае піянерка-фанатка 30-х гадоў: толча падараваныя Мядзведзем кветкі, пужае ні ў чым не вінаватага павука, які спускаецца са столі, крыўдзіць безабаронную жабу. Ці можа такая Машачка ўплываць на перавыхаванне Мядзведзя? Народная казка сведчыць, што яно адбылося: Мядзведзь з дзікага равуна ператвараўся ў добразычлівага чулага сябра. Усё вырашана прасталінейна з наборам банальных ходаў натуралістычнай тэндэнцыі тэатра лялек 50-х гадоў. Праўда, акцёры працуюць прафесійна. І спектакль, на першы погляд, традыцыйны, хоць і ў састарэлай эстэтыцы, але прытрымліваецца асноўных пастановачных прынцыпаў, і глядач яго ўспрымае і рэагуе, на першы погляд, нармальна. Ды што можа эстэтыка лялечнага мастацтва 50-х даць сённяшняму гледачу? Ад натуралістычных тэндэнцый лялечнікі адмовіліся яшчэ ў 1958 годзе на Міжнародным фестывалі ў Бухарэсце, і першым з іх быў С. Абразцоў, які даў метафарычнасць лялькі на прыкладзе ўласных лялечных нумароў з пальцамі і шарыкамі. Метафарычнасць і натуралізм — сумяшчальныя.

Што здарылася з маладзечанскім тэатрам? Перадусім даецца ў знакі выбар драматургічнага матэрыялу. П'еса В. Швэмбергера напісана ў 30-я гады. Яна — адлюстраванне саўковага часу нашага грамадства, адлюстраванне тагачасных ідэй, эстэтыкі, менталітэту тагачаснага грамадзяніна. У свой час яна была цікавай, магчыма, наватарскай (у сэнсе натуралістычных тэндэнцый). П'еса ў духу тыповага самадзейнага тэатра лялек. Спектакль таксама патыхае самадзейнасцю... Таму цяжка назваць яго традыцыйным. Трэба дадаць, што пераклад п'есы на беларускую мову мала чым адрозніваецца ад арыгінала, роблены ў літаратурнай эстэтыцы, якую прапанаваў В. Швэмбергер.

Ніяк не зразумець ідэю пастаноўкі: пра што яна, якой звышзадачай кіраваўся рэжысёр? На абмеркаванні ніхто з крытыкаў так і не змог адказаць.

А што сталася з Мядзведзем? Куды падзеўся Мядзведзь, калі Машачка вярнулася да Дзядулі з Бабуляй? Дзеці таксама задаюць пытанні, пляскаючы ў далоні пад музыку, якая не стасуецца са сцэнічным дзеяннем, імітуе дынаміку, стварае штучную маторнасць. А старэйшы глядач? Ці скажа ён хоць што вартае, акрамя саркастычных закідаў на адрас галоўных герояў?

**Аляксей ШАЛАХОЎСКІ**

КІНО

# Сумныя гісторыі

Толькі на два дні завітала ў Мінск знакаміты кінарэжысёр Кіра Муратава. Падстава — "Дні ўкраінскага кіно ў Мінску" (23—24 лютага), у рамках якіх адбылася ўжо "другая" прэм'ера яе славутых "Трох гісторый". У другі раз была паказана і карціна Вілена Новака "Прынцэса на бабах". Сапраўднае адкрыццё Дзён — малавядомыя дакументальныя стужкі "Пустыня" (рэж. Д. Багданаў), "Асядлаць каня" (рэж. С. Шапавалава) ды анімацыйны праект "Ходзіць гарбуз па гародзе"(рэж. В. Кастылёва). Паказ фільмаў у кінатэатры "Перамога" арганізавалі Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь і Міністэрства культуры і мастацтваў Украіны.

Кінавытворчасць на Украіне сёння ледзь дыхае. У мінулым годзе ў пракаце з'явіліся толькі тры ігравыя карціны: "Тры гісторыі" К. Муратавай, "Прынцэса на бабах" В. Новака, "Сябар нябожчыка" В. Крыштафовіча. Праўда, усе яны ўдзельнічалі ў прэстыжных міжнародных кінафестывалях: ад Берлінскага да сочынскага "Кінатаўра". Сёлета на ўкраінскай студыі "1+1" сумесна з кінакампаніяй "НТБ-ПРОФІТ" здымае свой новы фільм адзін Раман Балаян. Карціна па сцэнарыі Марыны Марзевай будзе мець назву "Два месяцы і тры сонцы" (галоўную ролю сыграе У. Машкоў). Плануе здымаць і К. Муратава. Магчыма — сумесна з маскоўскай сцэнарысткай Рынатай Літвінавай...

Наогул праблемы нам знаёмыя — няма грошай. Няма і нацыянальнага кінематаграфічнага прыза (на Беларусі — "Крыштальны бусел). Затое ўжо ёсць "Закон аб кінематаграфіі" (прыняты 13 студзеня 1998 года). Толькі ці вырашыць ён праблемы?

**Вольга БАРАБАНШЧЫКАВА**

## Дыпламатыя не перашкода

УЛАДЗІМІРУ ШЧАСНАМУ — 50

**Перакладчык, публіцыст Уладзімір Шчасны нарадзіўся 25 лютага 1948 года ў горадзе Смаргоні. Скончыўшы мясцовую СШ N 2, у 1966 годзе паступіў на факультэт перакладчыкаў Мінскага дзяржаўнага педагагічнага інстытута замежных моў. У час вучобы праходзіў стажыроўку ў Пакістане (1969—1970), працаваў перакладчыкам у Пакістане па лініі Міністэрства геадэзіі СССР. У 1972 годзе скончыў інстытут. Служыў у арміі, працаваў выкладчыкам. У 1978—1992 гадах з'яўляўся супрацоўнікам Службы рускіх пісьмовых перакладаў Сакратарыята ААН у Нью-Йорку. З 1993 года знаходзіцца на дыпламатычнай службе.**

**Літаратурную дзейнасць пачаў з дыпломнай работы, у якой прааналізаваў пераклады апавяданняў Д. О'Хары. Першы друкаваны твор у яго перакладзе — апавяданне пакістанскага пісьменніка Манто Саадат Хасана "Дзеля гонару?.." — было змешчана ў 1977 годзе ў зборніку "Далягляды". У асноўным перакладае з пакістанскай і мовы урду. У перакладзе У. Шчаснага на беларускай мове ў серыі "Бібліятэка замежнай прозы" выйшла кніга К. Маккалерса "Балада пра сумнае кафэ" (1988). Склаў зборнік "Амерыканскае дэтэктыўнае апавяданне" (1993) і пераклаў для яго творы. З 1983 У. Шчасны выступае ў рэспубліканскім перыядычным друку з артыкуламі пра культурнае жыццё за мяжой, а таксама з публіцыстычнымі развагамі.**

**Віншуем Уладзіміра Рыгоравіча з поўднем веку! Зычым яму поспехаў у дыпламатычнай рабоце і на перакладчыцкай, публіцыстычнай ніве!**

## У гасцях у "Бярозкі"

**Чарговае пасяджэнне бюро секцыі літаратуры для дзяцей і юнацтва адбылося ў рэдакцыі часопіса "Бярозка" — па гасцінным запрашэнні яе супрацоўнікаў. Гэта быў не традыцыйны агляд гадавых нумароў, а своеасаблівы даверліва-добразычлівы дыялог.**

**Напачатку выступілі супрацоўнікі "Бярозкі" пісьменнікі Уладзімір Ягоўдзік (галоўны рэдактар), Міхась Скобла (намеснік галоўнага рэдактара), Алесь Бадак (адказны сакратар). Яны спыніліся на тэхнічным, арганізацыйным момантах падрыхтоўкі і выдання нумара, яго змесце, вызначылі накірунак і адрасата сённяшняга часопіса, падзяліліся планамі і задумкамі ў перспектыве, удачамі і цяжкасцямі.**

**За перыяд рэдактарства У. Ягоўдзіка (амаль год) значна павялічыўся тыраж "Бярозкі" за кошт падпіскі. Розніцу зменшылі наўмысна — на карысць падпіскі, з улікам попыту. Шмат прыйшлося папрацаваць са школамі, бібліятэкамі. "Бярозка" — люстра для падлеткаў, таму патрэбна было змяніць адпаведна і змест, і мастацкае афармленне. Карацей, вярнуць часопіс школе.**

**У выступленнях членаў бюро секцыі Алеся Махнача, Яўгена Каршукова, Паўла Місько, Міхася Пазнякова, Міколы Чарняўскага, Ніны Галіноўскай, Міхася Зарэмбы быў адзначаны высокі літаратурна-мастацкі ўзровень часопіса, як разумнага, пазнаваўча-выхаваўчага, чулага дарадчыка падлеткаў. Да "Бярозкі" зноў пагарнуліся настаўнікі, бібліятэкары, бацькі. Часопіс узбагаціўся рубрыкамі: "Дзеці ў свеце", "Хачу сказаць", "Апошняя парта", "Паўлінка" і многімі іншымі. Змяшчаюцца анекдоты, шарады, анкеты...**

**Мастацкае афармленне робіцца з густам, змянілася паліграфія.**

**"Бярозка" шырока знаёміць сваіх чытачоў са знакамітымі людзьмі краіны — паэтамі, пісьменнікамі, кампазітарамі, артыстамі, музыкантамі. Не забывае і тых, каго ўжо няма сярод нас.**

**Былі выказаны бярозкаўцам пажаданні: замацаваць і паглыбіць сувязі са школамі і бібліятэкамі; рэгулярна змяшчаць старонкі дзіцячай творчасці; часцей друкаваць матэрыялы ваенна-патрыятычнай і гістарычна-краязнаўчай тэматыкі, матэрыялы, якія выхоўвалі б у падлеткаў пачуццё Радзімы, прывівалі этычныя і эстэтычныя нормы паводзінаў.**

**Тонка і далікатна весці на старонках часопіса гаворку на сексуальныя тэмы, даваць матэрыялы, якія раскрывалі б паняцце рыцарства, гордасці і годнасці. Калектыў "Бярозкі" з маладым запалам рыхтуецца адзначыць 75-гадовы юбілей свайго часопіса. Няма межаў удасканаленню, а значыць, бярозкаўцы ў новых задумах і пошуках.**

**Расці, разгаліноўвайся, ярка зеляней, "Бярозка"!**

**Ніна ГАЛІНОЎСКАЯ**

ПЕРАКЛАДЫ

***Жанін БОД жыве на поўдні Францыі.Яе надзвычай актыўная, дзейсная натура вымагае сталага руху, што выяўляецца ў шматлікіх гуманітарных ініцыятывах і няблізкіх дарогах — ад выспы Уэсан да Венецыі, ад Парыжа да Санта Фэ, Салонікаў і... Мінска. З паўгода таму назад Жанін Бод — паэтку, літаратурнага крытыка, журналістку, члена рэдакцыйнага камітэта часопіса "Sud", члена адміністрацыйнай рады Дома паэзіі ў Эме, часопіса "L'Arbre a Paroles" (Бельгія) — мелі гонар прывітаць у Саюзе пісьменнікаў і рэдакцыі часопіса "Полымя". Скуткам тых сустрэч сталася абяцанне Жанін Бод памагчы палымянцам у падрыхтоўцы да друк гронкі лепшых твораў сучаснай французскай літаратуры, а самой наладзіць сходную прэзентацыю беларускай паэзіі і прозы ў франкамоўным часопісе "L'Arbre a Paroles".***

***Жанін Бод — аўтарка дзесятка паэтычных зборнікаў. Увазе чытачоў "ЛіМа" прапаную пераклад яе вершаў з кнігі "Быў такі краявід", выдадзенай у 1992 годзе выдавецтвам "Rougerie", а ў 1993-ім адзначанай прэміяй Антанэна Арто.***

**Ніна МАЦЯШ**

Жанін БОД



# Быў такі краявід

●

*Чатыры такты*
*замест прадмовы:*
*Да меры*
*вады*
*якая мой позірк калыша*
*дадаецца*
*мядзяк цішыні*

*Металёвая стружка дахоўкі*
*сталёвыя ніці суднаў*
*і гэтыя стромыя скалы*
*сярод цёмнае плоці*

*Бура*
*на струне саду*
*развязвае той вузёл*
*што занадта доўга*
*трымаўся*

*Знадворку*
*шум вады*
*што хвошча*
*запацелую шыбку*
*Нішто не здольна*
*раздзяліць нас*
*надзейней*

Фэнтэн Велен,
3 ліпеня 1991.

## Як увойдзем сюды

*Дом на беразе*
*крэкча*
*Гэта матчына чэрава*
*якое вярнулася*
*на след свой апошні*
*Пад ветрам заходнім*
*рэха вясельнае*

*Трэба ўвайсці*
*Не скрануць аніводнага*
*каменя*
*Пакласці заплечнік*
*і марскую зорку*
*Зверыць час*

*Тут усё варушкое*
*лісце гартэнзіі*
*дзвярная засаўка*
*вецер у калідоры*
*Крокі ўзвычайваюцца*
*з насалодай*

*Уночы гучала*
*гамонка сцен*
*Выспалася*
*пры нямоце*
*поўні*
*абезгалоўленай*
*Знерухамелая*
*між аканіцаў*
*расчыненых*
*рэшт ландаў*
*дапытвае*
*мой позірк*

*Быў толькі туман*
*і гэтае гняздо акапанае*
*Жаднага мінака*
*Грукат граніту*
*лунае й лунае*
*у такое імгненне*
*Дарога пляжу*
*спаміж водарасцяў*
*будзіць*
*увесь далягляд*
*магчымы*

*Увайсці ў мора*
*як уваходзяць у веру*
*Цела наглянцаванае соллю*
*І толькі потым*
*пачнецца дарога*

*Зрабіць вандроўку*
*як найкарочшую*
*На камені найбліжэйшым*
*чакаць усходу сонца*

*Між масніцаў падлогі*
*пыл забруджвае*
*тое што магло б*
*чыстым быць*
*Насамрэч тая дробачка грунту*
*для позірку*
*каб спакой*
*цішынёю не стаўся*
*безгалосай*

*Дні*
*якія пацягваюцца*
*між вадой і каменнем*
*Адзін вецер*
*можа выказаць шлях*

*Плямы рудыя*
*на скалах*
*і чупрына пышная*
*водарасцяў гадаваных*
*на свежым паветры*
*агольваюць плечы*
*таго*
*хто яшчэ ўмее*
*рабіць дарункі*
*любові*

*Паралельнасць*
*мора*
*і фасаду старэннага*
*стогадовага дома*
*Можа*
*побыт мой тут*
*завершыцца выйсцем?*

*Адсутнасць*
*страпы*
*яна апраўдвае*
*Адрознасці згладжваюцца*
*тут між морам і горадам*
*тут між морам і выспай*
*На захадзе маецца і ў мяне*
*куточак адзін*
*прытульны*
*Пакоі гайдаюцца*
*Марская лагуна*
*у акне маім*
*вузкая*

*запаўняе ўвесь дом*
*Гэта лучнасць*
*Гэта ісцівае зліццё*
*Як мужчыны й жанчыны*
*у акце мілосным*
*Між гэтай касою пяску*
*і берагам гэтым вады*
*няма анічога ўжо больш*
*акром сонца*
*якое перагарае*
*і адлюстроўвае прасціны вечара*
*на гэтым прывідным лузе*
*дзе ты ўзнікаеш*

*Раўнавага*
*ледзь утрымваная*
*святлом*
*Быць гэтым мігценнем*
*якім зорка*
*з'яўляецца*
*і знікае*
*Не пожадам*
*а спраўджваннем*
*паміж дзіцем якое народзіцца*
*і каханнем якое было*

*Дзверы трымаюць*
*між дахоўкай*
*і карнізам адслоеным*
*птушку гэтую*
*з крыламі распрастанымі*

Пра, выспа Уэсан, уночы 13 ліпеня.

●

*Лагчына*
*між морам і верасам*
*такая дакладная ў плыні сваёй тумановай*
*перападзістая ўсёю сваёю паверхняй*
*дзе жанчына самотная*
*на хаду скача праз перашкоды*
*Яна спускаецца між густога кустоўя*
*да гэтай пустэльні*
*дзе я купаюся*
*у чаканні*
*выпрабаванняў*

(З цыкла "Рытмы хады")

●

*Заціснуць скалу*
*між дзвюх ліній вады*
*Пісаць*
*на вяршыні старонкі*
*і на жывым супыне*
*уцёсаў*

*Структура агульная*
*у пакоя*
*і мора*

*Сама гэтая адасобленасць*
*і сыход дня*
*падкрэсліваюць звяз*
*з заваёўцам*

(З цыкла "Вяртаюся да першага руху свайго")

●

*Столькі знайшла я*
*у музыцы слоў*
*гэтых неймяноўных*
*гэтых патаемных сутычак*
*паміж апаленым берагам*
*і жывою вадой што трымае*
*аблічча багоў*
*у далонях сваіх*
*нераспелых*

*Падарожжа па вертыкалі*
*у неасяглясць*
*будучую*
*Маяк*
*апякуецца*
*мною*

(З цыкла "Музычны салон")

# Новы культурны асяродак

У амерыканскім горадзе Кліўлендзе дзякуючы намаганням рэдактара часопіса "Полацак" Святланы Белай ствараецца новы беларускі культурны асяродак. У планах — рэгулярнае правядзенне выставачнай дзейнасці, арганізацыя беларускай бібліятэкі, прагляд беларускіх фільмаў, праслухоўванне запісаў спевакоў, музыкантаў, знаёмства з музычнымі праграмамі. Мяркуецца ў перспектыве адкрыць этнаграфічны музей, працаваць над архіўным упарадкаваннем матэрыялаў рэдакцыі "Полацака", а таксама тых, што звязаны з жыццём і дзейнасцю дзеячаў эміграцыі.

Пачаткам жа стала адкрыццё і асвячэнне выставы "Беларускія Апосталы з калекцыі Анатоля Белага" ў новым доме С. Белай. Экспазіцыя складаецца з 75 графічных работ, а таксама плакатаў "Уладары Старажытнай Беларусі", "Карта Вялікага княства Літоўскага часоў Вітаўта Вялікага" і "Радавод Полацкіх і Беларускіх (Літоўскіх) князёў", буклета "Беларускія калумбы", складзеных і выдадзеных А. Белым.

У час выступлення на адкрыцці выставы кіраўнік Кліўлендскага аддзялення БАЗА Янка Ханенка адзначыў шматгранную дзейнасць мінскага клуба "Спадчына" і яго кіраўніка А. Белага, які шмат робіць дзеля наладжвання цесных стасункаў паміж Бацькаўшчынай і беларускай дыяспарай Амерыкі.

## *Варты памяці нашчадкаў*

**Вялікі князь Вітаўт, як вядома, належыць да адной з самых буйнейшых гістарычных асоб Беларусі. Менавіта ён прывёў беларуска-літоўскае гаспадарства да зеніту славы і велічы. Пра гэтага надзвычай цікавага чалавека, які пражыў вельмі напружанае, поўнае драматычных падзей і нават прыгод жыццё напрыканцы XIV і пачатку XV стагоддзя расказваецца ў нарысе А. Краўцэвіча "Вялікі князь Вітаўт", выпушчанага выдавецтвам "Юнацтва" ў серыі "Бібліятэка-навукова-пазнавальнай літаратуры". Згаданая кніга вельмі добра дапаўняе тыя выданні гістарычнай тэматыкі, што выйшлі ў "Юнацтве" нядаўна, а гэта раман І. Шамякіна "Вялікая княгіня", кніга Г. Далідовіча "Кліч роднага звону", аднатомнік У. Караткевіча "Зямля пад белымі крыламі. Дзікае паляванне караля Стаха" і перавыданне іншых яго твораў, зборнік гістарычных эсэ і нарысаў А. Марціновіча "Зерне да зерня", шэраг іншых кніг. А ў выніку юныя чытачы змаглі даведацца шмат цікавага аб даўніх падзеях, асабліва тых, у час якіх адбывалася фарміраванне беларускай дзяржаўнасці, бліжэй пазнаёміцца са слаўнымі людзьмі Бацькаўшчыны, што ў розныя часы шмат зрабілі дзеля яе росквіту. Шэраг аналагічных кніг запланавана да выхаду ў бліжэйшы час. Гэта і новыя зборнікі гістарычнай літаратуры "Бацькаўшчына", колькасць якіх павялічваецца з году ў год, і кніжка для самых маленькіх "Мая Радзіма — Беларусь", і чарговы том у "Бібліятэцы беларускай дзіцячай літаратуры" пад назвай "Згукі Бацькаўшчыны", у якім прадстаўлены творы беларускай літаратуры, пачынаючы ад Еўфрасінні Полацкай і Кірылы Тураўскага да пачатку XX стагоддзя.**

## *Імя Максіма Танка*

**Народнага паэта Беларусі Максіма Танка, канечне ж, ведаюць у нашай краіне паўсюдна. І гэтаксама добра ведаюць сапраўдныя аматары літаратуры Яўгена Іванавіча далёка за межамі Беларусі. Праўда, ужо проста як ПАЭТА, але паэта не толькі еўрапейскага, а і сусветнага ўзроўню. Аднак, бадай, нідзе не ўспрымаюць Максіма Танка такім сваім, як на Мядзельшчыне. Тут, у вёсцы Пількаўшчына ён нарадзіўся і сюды ж, у Пількаўшчыну, вярнуўся на вечны спачын. Прыгажуні-Нарачы і іншым не менш вабным мясцінам прысвяціў многія свае творы. На Мядзельшчыне меў шмат сяброў і часта, калі станавілася скрушна, вяртаўся сюды. І не толькі, каб пажыць на дачы, а каб і сустрэцца з тымі, каго добра ведаў. У знак павагі да свайго самага знакамітага земляка і памяці аб ім Мядзельскі райвыканкам прыняў рашэнне аб наданні адной з вуліц Мядзела імя Максіма Танка.**

## *Гэта мы — людзі...*

**Выстава "Катастрофы чалавечага цела" ў Палацы культуры прафсаюзаў у Мінску — не для слабанервовых, бо на ёй былі прадстаўлены экспанаты, якія расказваюць пра чалавека, якім ён не павінен быць... А пачатак гэтай выставы можна ўбачыць, умоўна кажучы, у 1718 годзе. Пётр І, які, як вядома, бываючы за мяжой, вельмі цікавіўся тутэйшымі дасягненнямі, быў вельмі ўражаны калекцыяй анамальных з'яў, якую ўбачыў у знакамітага галандскага анатама Фрэдэрыка Руйша. І толькі праз дваццаць гадоў цар змог купіць гэтую забальзаміраваную калекцыю. Тады ж, у 1718 годзе, у Пецярбурзе, на Васільеўскім востраве, і пачалося будаўніцтва спецыяльнага музея, анатамічнага тэатра і абсерваторыі. Так неўзабаве і паўстала знакамітая Кунсткамера, а ўрачы атрымалі магчымасць пастаянна займацца навукай аб пачварах — тэраталогіяй. Традыцыі Пятра І па сутнасці і працягвае Пецярбургскі музей васковых фігур, які ўзначальвае мастацтвазнаўца А. Чужоў. Гэты музей і прадставіў у Мінск калекцыю унікальных фігур.**

**На выставе можна было ўбачыць жанчыну-мула і чалавека з двума тварамі, Франка Ланціні, які меў тры нагі, але гэта ніколі не перашкаджала яму гуляць у футбол і ...танцаваць... А яшчэ былі паказаны самая маленькая жанчына планеты, рост якой быў усяго 61 сантыметр, самы тоўсты чалавек — амерыканец Бастар Сімкус змог за адзін месяц пахудзець на ...адну тону 44 кілаграмы... Адкрывала ж выстаўку васковая фігура Пятра І.**

# У Вільні выйшла кніга...

Мікола АНЦЫПОВІЧ

## РАЗВАГІ НЕАБЫЯКАВАГА ЧЫТАЧА

НАКЛАДАМ у тысячу асобнікаў гэтая кніга выдадзена ў 1995 годзе дзяржаўным выдавецтвам Літвы "Mintis". Яе назва "О происхождении польскоязычных ареалов в Вильнюсском крае". Аўтар, Галіна Турска (1901—1978), нарадзілася ў Іркуцку ў сям'і інжынера-чыгуначніка Яблонскага. Пасля вучобы ў Віленскай гімназіі імя Э. Ажэшкі закончыла факультэт славянскай філалогіі універсітэта Стэфана Баторыя ў Вільні. Затым на працягу дзесяці гадоў (да 1939 года) працавала на кафедры мовазнаўства гэтага ж універсітэта. У 1946 г. выехала ў Польшчу. Працавала мовазнаўцам ва універсітэце Мікалая Каперніка ў Торуні і Польскай акадэміі навук.

Сваё даследаванне аб паходжанні польскамоўных абшараў Віленшчыны Г. Турска правяла яшчэ жывучы і працуючы ў Вільні. Але тады яно не пабачыла свет і не стала вядомым у навуковых колах. Прычынай таму — пачатак Другой сусветнай вайны і пажар у віленскай друкарні, дзе знаходзіўся рукапіс манаграфіі.

У пасляваенны час у бібліятэчных сховішчах Вільні было выяўлена некалькі экземпляраў друкаваных тэкстаў па-польску без тытульнай вокладкі, якія літоўскія даследчыкі і прызналі ў якасці фрагментаў з даваеннай манаграфіі Г. Турскай. Затым намаганнямі энтузіястаў рэшткі працы польскай даследчыцы ў 1982 годзе былі выдадзены ў Варшаве. Мяркуецца, што з даваенных 118 параграфаў працы Г. Турскай свет пабачылі толькі 45.

### РУПЛІЎЦЫ І ВЫНАХОДНІКІ "ПАСЛЯ Г. ТУРСКАЙ"

Асаблівасцю віленскага выдання з'яўляецца не толькі тое, што ўласнааўтарскі польскі тэкст пададзены яшчэ і ў рускім перакладзе, але і тое, што прадмова В. Чэкманаса па аб'ёме набліжаецца да тэксту самой кнігі. Аўтар уступу, даследчык праславянскай фанетыкі, у савецкія часы больш вядомы пад прозвішчам В. Чэкман, дае шырокую інфармацыю аб сацыямоўнай сітуацыі ў паўднёва-ўсходняй Літве "пасля Г. Турскай", гэта значыць — у пасляваенны час. Канстатуючы той факт, што на пачатку 90-х гадоў польская меншыня на Літве налічвае 247 тысяч чалавек, ці 7,3 % ад агульнай колькасці насельніцтва, В. Чэкманас дае геаграфію яе размяшчэння: у Зарасайскім і Ігналінскім раёнах яна складае 7 %, Шырвінцкім — 11 %, Тракайскім — 24%, Свянцянскім — 29 %, Віленскім — 65 %, Шальчыніцкім — 80 %. У Вільні палякі складаюць каля 20 % насельніцтва горада. У далейшым аўтар уступнага артыкула паведамляе, што польская частка насельніцтва Літвы вельмі насцярожана і падазрона ў канцы 80-х гадоў паставілася да самога факта аднаўлення літоўскай незалежнасці. І гэта на фоне таго, што з усіх былых савецкіх рэспублік толькі ў камуністычнай Літве існавалі польскія школы, выдавалася польскамоўная газета "Чырвоны штандар", рыхтаваліся настаўнікі-паланісты.

Узмацненне польскасці ў пасляваенны час на Віленшчыне, як лічыць В. Чэкманас, адбылося на падставе "невядомых прычын", якія ляжалі ў аснове рашэнняў ЦК ВКП(б) у 1951 годзе аб пашырэнні сеткі польскіх школ у паўднёва-ўсходняй частцы Літвы. Думаецца, што "невядомыя прычыны" прадугледжвалі не толькі магчымасць гартаваць камуністычную перакананасць насельніцтва гэтага рэгіёна на мове больш блізкай і зразумелай для яго, чым літоўская, але і выкарыстанне гэтай часткі літоўскага грамадства ў якасці эфектыўнага нейтралізатара (нават — у думках, не кажучы — у дзеяннях) незалежніцкай настальгіі літоўцаў. Пакт Молатава—Рыбентропа, як вялікая, працяглая, тайная палітычная гульня, па-свойму тлумачыў змест "вяртання" Вільні Літве.

Адметнасцю палякаў Віленшчыны, як адзначае В. Чэкманас, з'яўляецца тое, што ў сучасны момант польскасць культывуецца тут толькі дзякуючы "школьнай моўнай паланізацыі", якую праводзяць мясцовыя ўлады паўднёва-ўсходняй Літвы. Штучнасць карыстання польскай мовай аўтахтонаў Віленшчыны праяўляецца ў тым, што ў штодзённасці яны гавораць выключна па-беларуску, ці, як яны саманазываюць, "папросту". На сённяшні дзень больш-менш прыстойна па-польску можа выказвацца толькі старэйшае пакаленне, якое атрымала адукацыю яшчэ "за Польшчай". Што да моладзі, то, пачынаючы з часоў "развітога сацыялізму", шмат хто ўвогуле пазбягае польскай мовы (і гэта пры тым, што большыня з яе ў школах вучылася па-польску), а перавагу аддае рускай як найбольш прывабнай і прэстыжнай. Таму нормай для Віленшчыны апошняга дваццацігоддзя з'яўляецца ператварэнне польскамоўных школ у рускія.

Як лічыць В. Чэкманас, русіфікацыя Віленшчыны адбываецца з-за таго, што мясцовыя аўтахтоны, выкарыстоўваючы сваю "простую", "тутэйшую" мову ў хатнім, сямейным ужытку, тым не менш пад ціскам польскіх традыцый касцёла, а таксама знешніх фактараў жадаюць замяніць яе на польскую ў сферах адукацыі, культуры, веры. І менавіта гэта з'яўляецца першапрычынай таго, што польская супольнасць у агульнаадукацыйных, вытворчых і сацыяльных адносінах знаходзіцца ў відавочна горшым стане ў параўнанні з іншымі народамі Літвы, што перашкаджае ёй максімальна інтэгравацца ў літоўскую дзяржаўнасць. Аднак жа мэтавая скіраванасць уступнага артыкула не зводзіцца да канстатацыі своеадметнасці сённяшняй Віленшчыны. Тут думка іншая: паказаць, што аўтахтоннае насельніцтва гэтага краю, якое самаідэнтыфікуе сябе з палякамі, на самай справе не з'яўляецца імі. Беларускія навукоўцы ўжо даўно раскрылі сутнасць механізму ўтварэння палякаў як на Віленшчыне, так і ўва ўсёй Беларусі. Ён зводзіцца да наступнага: атаясамліванне канфесійнага фактара з нацыянальным. У выніку гэтага на Беларусі паступова афармляўся ўстойлівы стэрэатып: каталік — паляк, паляк — каталік; праваслаўны — рускі, рускі — праваслаўны, што прыводзіць да знікнення ці дэфармацыі паняцця "беларус".

Цэнтральная ідэя, што адлучае канцэпцыю Г. Турскай ад поглядаў, якія панавалі ў польскай гістарыяграфіі і паланістыцы міжваеннай Польшчы па пытаннях узнікнення польскасці на "ўсходніх крэсах", зводзіцца да наступнага: Віленшчына ніколі не была этнічна-польскай тэрыторыяй, а "крэсавякі" ні ў якім разе не з'яўляюцца нашчадкамі пераселеных сюды палякаў-асаднікаў з этнічнай Польшчы, бо яны ўзніклі толькі ў выніку паланізацыі тутэйшых насельнікаў-аўтахтонаў. Як лічыць польская даследчыца, паланізацыя не толькі "вярхоў", але — што самае галоўнае — сялянскіх мас Віленшчыны адбывалася выключна на добраахвотнай аснове па наступнай схеме: літоўцы (этнічныя) → беларусы →палякі. З гэтага вынікае, што першажыхарамі Віленшчыны былі этнічныя жмудзіны-летувісы, якія затым пад ціскам наступальна-моўнай беларускай стыхіі добраахвотна абеларусіліся і затым ужо "новаўтвораныя" беларусы, у сваю чаргу, зноў не менш добраахвотна паланізаваліся.

Што тычыцца В. Чэкманаса, то ён, цалкам прызнаючы дадзеную схему, тым не менш не ідзе "за Турскай". Ён прызнае, што ў сапраўднасці на ўзроўні ператварэння абеларушаных літоўцаў у крэсавых палякаў пераважаў прымус над добраахвотнасцю. Таму бачанне В. Чэкманаса дэлітуанізацыі насельніцтва Віленшчыны характарызуецца наступнай схемай:

- стыхійная беларусізацыя (да сярэдзіны XIX ст.);
- стыхійна-экспансіўная паланізацыя (да пачатку XX ст.);
- скіраваная паланізацыя (першыя дзесяцігоддзі XX ст.).

### СТАРАКАТАЛІЦТВА

Для тлумачэння схемы літоўцы → беларусы → палякі як перадумовы ўзнікнення польскамоўных абшараў Віленшчыны В. Чэкманас узяў каталіцкі фактар, што не з'яўляецца новым у тлумачэнні паланізацыі беларусаў. Пры гэтым ён робіць спасылку на неназванага ім беларускага навукоўца, які нібыта яшчэ ў 50-х гадах прапанаваў падзяляць усіх беларускіх католікаў на новакатолікаў і старакатолікаў. Першыя — гэта ўсе колішнія беларускія уніяты, якія масава сталі пераходзіць у лацінскі абрад пасля захопу Расіяй зямель Вялікага княства Літоўскага напрыканцы XVIII стагоддзя. Вяршыняй гэтага пераходу з'явіліся 30-я гады XIX ст., калі на беларускіх землях расійскімі акупацыйнымі ўладамі канчаткова было забаронена уніяцтва. Беларускія старакатолікі, як лічыць В. Чэкманас, — насельніцтва, якое ніколі не было ні уніяцкім, ні праваслаўным да 1387 года. Яно з'ўлялася не толькі паганскім, але і этнічна літоўскім, таму і прыняло хрысціянства ў каталіцкім абрадзе, як і ўсе літоўцы-жмудзіны.

Ідэя старакаталіцтва на Беларусі не з'яўляецца адкрыццём В. Чэкманаса. Праўда, што тычыцца Г. Турскай, то яна толькі мімаходзь закранае старакаталіцтва як падпарадкаваную тэзу асноўнай аўтарскай думцы аб добраахвотнай і свецкай паланізацыі віленскіх сялян. Больш выразна і мэтанакіравана сама сутнасць старакаталіцтва прысутнічае ў спадчыне этнографа Беларусі Грынблата Маісея Якаўлевіча (1908—1983 гг.), на якога фактычна і спасылаецца В. Чэкманас. М. Грынблат у сваёй працы "К вопросу об участии литовцев в этногенезе белорусов" // Вопросы этнической истории народов Прибалтики". М., 1959, узяўшы за аснову традыцыйны вялікадзяржаўны стэрэатып аб хрысціянізацыі г. зв. адзінай старажытнарускай народнасці толькі ў форме візантыйскага праваслаўя, зрабіў выснову аб неабходнасці перагляду пытанняў, звязаных з паходжаннем беларусаў-католікаў. Чырвонаю ніткаю праз усю працу М. Грынблата праводзіцца думка аб тым, што з'яўленню беларусаў-католікаў паспрыяла толькі Брэсцкая царкоўная унія 1596 года, якая, як ён лічыць, была "вельмі хітра задумана папскімі агентамі і польскімі магнатамі для акаталічвання беларускага праваслаўнага насельніцтва". Вынікам "перагляду" гісторыі каталіцызму на Беларусі і з'явіўся вызначаны М. Грынблатам абшар гэтак званага старакаталіцкага беларускага насельніцтва, які ахоплівае тэрыторыю, прылеглую да Гародні, Скідаля, Радуні, Ліды, Ашмянаў, Астраўца, Смаргоні, Свіры, Відзаў, Браслава.

Беларускія старакатолікі, на думку М. Грынблата, першапачаткова "стартавалі" як літоўцы і толькі затым добраахвотна абеларусіліся. Трансфармацыя літоўцаў у беларусаў адбывалася, на думку М. Грынблата, у сілу наступнага: так як афіцыйнай мовай Вялікага княства Літоўскага была старабеларуская (на ёй былі напісаны Статуты 1529г., 1566 г., 1588 г., а таксама працавалі соймы, урады, суды, установы сярэдневяковай дзяржавы), то жыхарства Віленшчыны пакідала сваю літоўскую і паступова пераходзіла на беларускую мову. Можна было б і прызнаць літоўскія "старты" ў старакаталіцтва, каб не адно "але". А як жа быць у такім выпадку з беларусамі, якія былі католікамі яшчэ задоўга да ўзнікнення уніяцтва і знаходзіліся далёка па-за межамі "старакаталіцкага" раёна, дзе прысутнасць "літоўскага субстрата" не дапускаецца нават яго прыхільнікамі? Напрыклад, з тутэйшым людам з Абольцаў і іх ваколіц (а гэта ж паміж Оршай і Сянно), у асяроддзі якога ўжо ў XIV стагоддзі былі пашыраны каталіцызм?

Размежаваўшы беларускіх католікаў па "ўзросце", М. Грынблат канстатуе, што гістарычна-этнічная мяжа паміж беларусамі і літоўцамі праходзіць па ніжняй лініі "старакаталіцкага" раёна. Адсюль робіцца выснова, што ўсё цяперашняе аўтахтоннае насельніцтва Віленшчыны і паўночна-заходняй Беларусі, незалежна ад таго, кім яно сябе лічыць — палякамі ці беларусамі — у сапраўднасці з'ўляецца этнічна літоўскім.

А каб яшчэ больш пераканаць чытача,

што літоўцы і іх мова жылі на Віленшчыне, М. Грынблат робіць спасылкі на рукапісы фалькларыстаў і краязнаўцаў царскай Расіі, пры гэтым не звяртаючы ўвагі на супярэчлівыя моманты. Напрыклад, у адным рукапісе сцвярджаецца, што ў Друскеніках у 1847 годзе літоўская мова зусім адсутнічае, а ў другім дэклpуецца, што ў Друскеніках у гэты час яна пашырана. Неабходна памятаць, што рукапісы, на якія спасылаецца М. Грынблат, выдадзены ў 1914 г. і ў пэўнай ступені з'яўляюцца імперскай рэакцыяй на пашырэнне беларускага нацыянальнага руху і лідэрства ў ім беларускіх адраджэнцаў-католікаў. Менавіта ў пачатку XX ст. імперская схема "праваслаўе — народнасць — самаўладдзе" стала ўзмоцнена прапагандавацца расійскімі ўладамі, у тым ліку і дзеля самаўсведамлення беларускага народа як "адзінаправаслаўнага". У гэтым выпадку беларускія "старакатолікі" тлумачыліся выключна як этнічныя літоўцы, а "новакатолікі"-беларусы — як палякі. Старакаталіцтва як устойлівая ідэалагема з аднолькавым поспехам выкарыстоўвалася як руска-праваслаўнай экспансіяніcцкай палітыкай царскай Расіі, так і савецкай дзяржавай, заснаванай на палітычным атэізме. Спробы выкарыстання старакаталіцтва, толькі ўжо на карысць "вялікай Літвы", — з'ява сённяшняга дня.

## ЭТНАСХЕМЫ З "ТУТЭЙШЫМІ" І БЕЗ ІХ

Як ужо адзначалася вышэй, Г. Турска не дапускае нават думкі, што аўтахтоны Віленшчыны былі спрадвечна палякамі. У яе разуменні віленскі паляк — гэта толькі "этнічны неалагізм", г.зн. новаўтвор, у адносінах да якога з дакладнасцю да дзесяцігоддзяў можна вызначыць час ягонага ўзнікнення. Менавіта абгрунтаванню гэтай канцэпцыі і прысвечаны 150 старонак, ці 44 параграфы "тэкстаў Турскай", укладзеных літоўскімі выдаўцамі. Яны складаюцца з дзвюх частак: агульнай, дзе раскрываюцца прычыны, якія, на думку даследчыцы, паспрыялі пашырэнню польскасці на Віленшчыне, і спецыяльнай часткі, у якой разглядаюцца фанетыка, марфалогія, артыкуляцыя гукаў, слоўнікавая адметнасць віленска-польскага дыялекту.

У прасторавых адносінах Г. Турска адзначае, што ў XIX ст. больш-менш поўна і яскрава абазначаюцца тры цэнтры экспансіі польскай мовы сярод крэсавых сялян: Віленскі, Ковенскі і Смалвенскі (паміж Відзамі і Зарасаем). Адносна іх сцвярджаецца, што яны не маглі ўзнікнуць толькі дзякуючы тром вялікім гарадам Вільні, Коўне і Даўгаўпілсу як асяродкам польскасці. Хоць Г. Турска і не выключае нейкага іх нязначнага культурнага ўплыву ў пытаннях паланізацыі мясцовых вёсак. Асабліва гэта адносіцца да нешматлікага ковенскага польскамоўнага абшару, узнікненне якога яшчэ неяк можна тлумачыць схемай: горад паланізуе вёску. Што тычыцца віленскага і смалвенскага абшараў, то Г. Турска разглядае іх як нешта адзінае і суцэльнае, назоў якому — Віленшчына, вёскі якой ні ў якім разе не маглі паланізавацца толькі за кошт Вільні.

Поруч з адмаўленнем ролі вялікіх гарадоў у паланізацыі крэсавых сялян польская даследчыца адмаўляе таксама "шляхецкі фактар" у гэтым этнапрацэсе. На яе думку, толькі пад Коўнам, дзе было шмат дробных шляхецкіх засценкаў, польская мова перадавалася ад шляхты сялянам-літоўцам, але носьбітамі яе былі хутчэй адзінкі, чым суцэльныя польскамоўныя абшары. Тым больш Г. Турска адкідвае фактар планамернай палітычнай дэнацыяналізацыі палякамі віленчукоў пасля 1863 года, калі выйшла забарона на ўжыванне польскай мовы ва ўстановах, грамадскіх месцах і адукацыі Расійскай імперыі. Пры гэтым польская даследчыца спрабуе не заўважаць прынцыповай розніцы паміж XVIII і XIX стагоддзямі, калі Польшча ўваходзіла ў склад Расіі, і дзе сапраўды адсутнічала палітычная паланізацыя, і міжваеннай Польшчай нашага стагоддзя, у якой польскасць пашыралася дзяржаўнымі сродкамі, а іншанацыянальныя крэсы разглядаліся як з'ява часовая ў вялікапольскай палітыцы.

Адкінуўшы ўсё тое, што не магло спрычыніцца да стымуляцыі польскасці, Г. Турска вылучае дзве гіпотэзы ўзнікнення палякаў Віленшчыны. Гэтыя гіпотэзы выяўляюцца наступнымі этнасхемамі:

а) літоўцы → беларусы → палякі

б) літоўцы → палякі.

Адметнасцю гэтых варыянтаў з'яўляецца тое, што яны як узаемазвязаны, так і ўзаемавыключаюцца. Першапачаткова Г. Турска падзяляе погляды больш ранніх даследчыкаў Віленшчыны аб тым, што польская мова тут склалася выключна на беларускай аснове. Згодна з гэтым літоўцы, якія адмовіліся з чыста утылітарных інтарэсаў ад роднай мовы на карысць беларускай, з цягам часу адмовіліся і ад яе на карысць польскай. Але затым даследчыца пачынае выдзяляць вядучую і непасрэдную ролю літоўцаў у іх самапаланізацыі без пасрэдніцтва беларусаў. Гэта выплывае з наступных разважанняў. Гістарычна Віленшчына была заселена выключна толькі этнічнымі літоўцамі. Але затым, пачынаючы з трэцяй чвэрці XIX стагоддзя, пад ціскам беларускай стыхіі частка іх абеларусілася. Таму з гэтых часоў Віленшчына ўяўляла сабою дзве часткі: літоўскую са сваёй роднай мовай і беларускую (экс-літоўскую), у якой беспадзельна пануе беларуская (простая) мова. Дык вось, Г. Турска схільна лічыць, што экс-літоўцы запазычылі ў беларусаў іх мову, зыходзячы выключна з утылітарных, карыслівых памкненняў. Веданне яе спрыяла ўзаемаразуменню не толькі з суседнім селянінам-беларусам, але і з панам, ксяндзом, рускім чыноўнікам. З часам беларуская мова для экс-літоўца Віленшчыны, дзякуючы сваім практычным каштоўнасцям робіцца яго асноўнай, штодзённай мовай.

У XIX стагоддзі падчас існавання ўжо літоўскай і беларускай частак Віленшчыны адбываецца інтэнсіўная паланізацыя неабеларушаных яшчэ літоўскіх сялян напрамую без беларускамоўнага пасярэдніцтва па схеме: літоўцы → палякі. І вось тут у дапаўненне да чыста практычных патрэб неабеларушаныя літоўцы сталі выкарыстоўваць перавагі польскай культуры і мовы як паказчык далучанасці да вышэйшых пластоў грамадства, як мовы рэлігіі, літаратуры, як мовы "панскай". Таму працэс паланізацыі літоўцаў адрозніваецца ад іх беларусізацыі моцным эмацыйным момантам і зацятасцю ў авалодванні польскімі каштоўнасцямі. Тут "простая" мова ўжо ці зусім не прысутнічала, ці калі яна і была, то вельмі коратка, на працягу няпоўнага пакалення. Таму палякі, якія трансфармаваліся ў адпаведнасці з этнасхемай Г. Турскай "літовец — паляк", з самага свайго ўзнікнення сталі пагардліва ставіцца да "чыстых" літоўцаў, называючы іх грэбліва "цёмная літва", а таксама да беларусаў і абеларушаных літоўцаў за іх "простасць".

Менавіта пагардлівасць паланізаваных літоўцаў да ўсяго літоўскага прыдавала далейшай паланізацыі незваротнасць і паскораны тэмп. Таму, як адзначае Г. Турска, нярэдка назіралася, што зусім яшчэ маладыя "палякі-празеліты" (г. зн. новаабарочаныя), якія працягвалі карыстацца ў хатніх умовах роднай мовай, адначасова давалі ёй знішчальную характарыстыку: літоўская мова нагадвае нібыта размову гуся з гусем ці гуся са свіннёй...

Не закранаючы тут палітыка-патрыятычныя погляды польскай даследчыцы, неабходна зазначыць, што такі стан рэчаў сярод літоўцаў яна лічыла не навязаным звонку, а з'явай выключна адвольнай, вынікам жыццёвай неспадручнасці літоўскай мовы і асаблівай прыцягальнасці мовы польскай.

Вызначыўшы спецыфіку паланізацыі літоўцаў напрамую, без беларускай пасрэднасці, Г. Турска засяроджвае ўвагу на спецыфіцы далучэння "чыстых" беларусаў і "экс-літоўцаў" (г. зн. абеларушаных літоўцаў) да польскай мовы. Яна іх аб'ядноўвае ў адну групу насельніцтва, асноўнымі рысамі якога выступаюць "простасць" і "тутэйшасць". Тут Г. Турска папярэджвае, што нельга распаўсюджваць практыку адносінаў літоўцаў да сваёй і польскай мовы на адносіны беларусаў і абеларушаных літоўцаў да "простай" і польскай. Для літоўца і беларуса была розная прыцягальная сіла да польскай мовы. Для беларусаў польская мова мела толькі культурныя перавагі над "простай". Селянін-беларус не адчуваў аніякай неабходнасці адмаўляцца ад сваёй "простай" мовы, якая ў штодзённасці яго цалкам задавальняла. А польская мова, якую ён з меншымі затратамі, чым літовец, засвойвае, робіцца толькі культурным дыялектам, які выкарыстоўваецца выключна для знешніх кантактаў. Такога роду разважаннямі польская даследчыца звяртае ўвагу на мацнейшы кансерватызм беларускай мовы, чым літоўскай, ва ўстойлівасці перад ціскам польскай. А тыя кволыя праявы паланізацыі (на святы, у гасцях, па дарозе ў касцёл), якія і ёсць у сялян-беларусаў, нішто іншае, згодна з Г. Турскай, як звычайная зайздрасць да ўжо зпаланізаваных сялян-літоўцаў. Менавіта апошнім беларускія сяляне і не жадаюць саступаць дзеля знешняга глянцу. Таксама наяўнасцю літоўскай і беларускай частак Віленшчыны тлумачыць Г. Турска незразумелы яшчэ ў 20-х гадах шэрагу польскіх даследчыкаў той факт, што "ў сучасны момант у непасрэднай блізкасці ад Вільні ў штодзённым ужытку сустракаецца толькі беларуская мова, а сляды польскай можна занатаваць у мясцовасцях больш аддаленых ад горада". Дык вось, як лічыць Г. Турска, блізкае наваколле Вільні з'яўляецца беларускім толькі таму, што яго жыхарства калісьці было літоўскім і затым абеларусілася.

Вялікую цікавасць выклікаюць назіранні Г. Турскай за мовай літоўскай і беларускай шляхты Віленшчыны. Даследчыца адзначае: у Ковенскім павеце дробная шляхта не толькі сама гаварыла па-польску, але і навязвала польскую мову літоўскім сялянам. Па-іншаму выяўляецца становішча польскай мовы сярод дробнай шляхты, якая пражывала ў абшарах беларускага насельніцтва. Тут не карыстаюцца польскай мовай не толькі сяляне, але і сама шляхта гаворыць з імі і чэляддзю толькі па-беларуску. Напрыклад, у ваколіцах Эйшышкаў, як сведчыць Г. Турска, такі стан лічыцца нармальным, і тамтэйшая шляхта тлумачыць яго наступным чынам: "А як яшчэ па-другому, як не па-просту, можна звяртацца да селяніна?" А адна шляхцянка з гэтай ваколіцы заяўляла на гэты конт: "Калі да сялян звярнуцца па-польску, то яны разявяцца і глядзяць, нічога не разумеючы".

Аналізуючы Віленшчыну, Г. Турска дзеліць яе насельніцтва на аднамоўнае і двухмоўнае. Да першага яна адносіць спаланізаваных колішніх літоўцаў, а таксама невялікую колькасць беларусаў, якія ўжываюць польскую мову ў сям'і і штодзённасці. Для двухмоўнага насельніцтва асноўнай выступае беларуская, якая ахоплівае ўсе пакаленні. Польская ж выкарыстоўваецца "для гасцей". У 1933 годзе, напрыклад, у вёсцы Гаруны, што за пяць кіламетраў на захад ад Вільні, вялікая група дзяцей, падлеткаў і жанчын адпачывала ў нядзелю на вясковай вуліцы. Усе яны між сабой размаўлялі па-беларуску, але варта было назіральніцы выйсці са свайго схованкі і быць заўважанай, як яны сталі гаварыць па-польску. На пытанне Г. Турскай, чаму яны гавораць то так, то гэтак, быў такі адказ: "Як убачылі паню, то сталі гадаць (гаварыць) па-польску".

Лепшага ілюстраванага матэрыялу і для той сітуацыі, і для перыяду "роўнасці" народаў нельга і прыдумаць: каланіяльны чыноўнік, лекар, настаўнік, інтэлігент і нават гандляр у практычным жыцці тубыльцаў выступалі як палітычныя праваднікі пануючай культуры і мовы, а гэта, у сваю чаргу, з'яўлялася вынікам дзяржаўнага адмаўлення беларускай мовы ў абслугоўванні прэстыжных сфераў жыцця.

Змест прыкладаў, якімі ілюструе Г. Турска "двухмоўнасць" сялян-беларусаў Віленшчыны, паказвае, што яна ёсць не што іншае, як іх змушанасць у карыстанні польскай мовай сітуацыямі, якія дыктуюцца касцельнымі і палітыка-дзяржаўнымі традыцыямі польскага грамадства. Таму можна цалкам пагадзіцца з высновамі Г. Турскай на гэты конт: "Каб двухмоўныя сяляне апынуліся не ў межах польскай дзяржавы, а былі б далучаны да якой-небудзь свабоднай Беларусі з беларускай мовай ва ўстановах, школе, царкве, то можна засумнявацца ў тым, ці падвергліся б яны ўвогуле аканчальнай паланізацыі. Магчыма, праз нейкі час двухмоўнасць у іх саступіла б месца беларускай аднамоўнасці".

## "ЛІТОЎСКІЯ ЗАПАЗЫЧАННІ"

У спецыяльнай частцы свайго даследавання Г. Турска зрабіла спробу высветліць спецыфіку польскай мовы на Віленшчыне. Дзеля гэтага яна склала слоўнік, як яна сама лічыць, запазычанняў з беларускай і літоўскай моў віленскай пальшчызнай. Што тычыцца беларускай лексікі, то Г. Турска зафіксавала прыкладна 150 слоў, якія фігуруюць у розных сферах гаспадарча-земляробчага, побытавага ўжытку, вызначэннях крэўна-сваяцкіх сувязей віленскіх палякаў. Такі масіў слоў перавышае сярэднеўжывальны слоўнікавы запас звычайнага чалавека. Можна з пэўнасцю пайсці "за Г. Турскай" у гэтым пытанні. І падставы для гэтага ёсць. *Канюшына, мурог, зязюля, саладуха, даёнка, бразгаць, дзяруга, ярмак, кужаль, абора, хапун, дармаед, цяляпацца, кудахтаць, каліва, глуміць, каўнер, памяло, пазычаць, патураць, дуля, трывушчы, ікаўка, лытка, падлога, студня* і г.д. — гэтыя словы Г. Турска без усякіх хістанняў адносіць да беларускай мовы. Менавіта яны, як і іншыя беларускія словы, утрымліваюць у сабе сацыякультурную і гістарычную памяць беларускага народа ў лексіцы віленскіх палякаў.

Пры гэтым Г. Турска аргументуе, што польская мова на Віленшчыне, як і кожная мова, якая склалася на чужой аснове, характарызуецца нейкай своеадметнай няўстойлівасцю і імкненнем да літаратурнай правільнасці (што шмат у якіх выпадках прымае камічныя формы), а таксама моцнай тэндэнцыяй да іншамоўных запазычанасцей. Так што можна весці гутарку аб сацыякультурнай польскай "надбудове" над першасным беларускім сацыякультурным "базісам".

Каб даказаць жыццёвасць сваёй гіпотэзы аб тым, што сённяшнія палякі Віленшчыны — гэта ўчарашнія літоўцы, Г. Турска выкарыстоўвае "нешматлікія літоўскія запазычанні", якія, як яна сцвярджае, прысутнічаюць у віленска-польскім дыялекце, напрыклад: *раісты, ласы, сенажаць* (?!). А каб было больш пераканаўча, што гэта менавіта літоўскія словы, Г. Турска абгрунтоўвае, што яны хоць і прысутнічаюць у сучаснай беларускай мове, але прыйшлі туды з літоўскай.

Спалітызаванасць гіпотэзы аб добраахвотнай трансфармацыі літоўцаў Віленшчыны ў палякаў з'яўляецца вялікай перашкодай для Г. Турскай як даследчыцы. Таму і атрымліваецца, што прафесійная мовазнаўца аперыруе польска-патрыятычным штампам: літоўская мова знікла толькі таму, што яна, са слоў саміх літоўцаў Віленшчыны, вельмі ім абрыдла, і яны пачалі гаварыць па-польску толькі дзеля далучэння да больш "высокай" культуры. Каб пераканаць чытача, што на Віленшчыне ёсць літоўскае карэнне, Г. Турска прыводзіць выказванні 95-гадовага "тутэйшага", які ўспомніў, што ягоны дзед гаварыў калісьці па-літоўску, і сам ён ведае літоўскія словы "конь", "карова", "грошай няма". А калі нават літоўскія словы і адсутнічаюць у штодзённасці мясцовых палякаў, затое, як адзначае даследчыца, у іх ёсць літоўскае вымаўленне, мелодыка голасу. Сапраўды, для палітычнага абгрунтавання літоўскасці як абавязковай падставы для непазбежнай паланізацыі Віленшчыны, можа, гэтага і дастаткова.

А яшчэ. Як Г. Турска, так і В. Чэкманас не адказалі на пытанне: дык чаму ж польскасць у Літве XVIII—XX стагоддзяў так і не пашырылася за межы Віленшчыны? Гэта тлумачыцца, скажам ад сябе, не столькі ўзнікненнем незалежнай Літвы ў 20-х гадах (на што ўказвае Г. Турска), колькі тым, што аўтахтонамі Віленшчыны гістарычна з'яўляліся беларусы, якія ў асобныя перыяды гісторыі саманазываліся ліцвінамі. Менавіта яны з 20-х гадоў XX ст. у выніку міжнародных, палітычных складанасцей былі адарваны ад беларускай метраполіі і траплялі то ў склад Польшчы, то ў Літву. Менавіта яны зараз самапачуваюцца палякамі, гэта з іх у будучым хочуць зрабіць літоўцаў.

Аўтары віленскага выдання заяўляюць, што яны перавыдалі тэксты Г. Турскай ва ўсёй аўтэнтычнасці. Але і ў іх яны ўнеслі літоўскую прысутнасць. Усе тапонімы, якія выкарыстоўвала даследчыца Віленшчыны, у рускім варыянце 1995 г. гучаць выключна па-літоўску: *Горюнай, Вільнюс, Ошкіняй,* што нават немагчыма ўявіць у якасці тапанімічных норм польскай мовы. Уяўляецца трохі дзіўным і тое, што ўсе картысхемы, ілюстрацыі, на якія ёсць спасылкі ў тэкстах Г. Турскай, у віленскім выданні адсутнічаюць, і на гэты конт даецца лаканічны адказ: "Не збераглiся".

Паняцці "Віленшчына", "польскасць", "літоўскасць", "старакаталіцтва", "тутэйшыя", "папросту" не адзін раз у нашым стагоддзі трагічна ўздзейнічалі на лёс беларускага народа. Гэтыя "дробязі" ляжалі ў аснове "мірнага" дагавора РСФСР з Літвой 12 ліпеня 1920 г., згодна з якім беларуская тэрыторыя, занятая на той час палякамі, прызнавалася літоўскай, на якой і разгарнуліся пошукі літоўскасці пад Лідай, Нараччу, Маладзечнам. У сакавіку 1921 года ў Рызе, зноў-такі ў выніку выкарыстання "дробязей" кшталту традыцый польскага каталіцтва і рускага праваслаўя, Беларусь была падзелена паміж Польшчай і Расіяй.

Адметнасцю сістэм доказнасці і Г. Турскай, і В. Чэкманаса з'яўляецца тое, што ў працэсе абгрунтавання сваіх "этнасхем" яны, насуперак жаданню, абгрунтоўваюць наяўнасць магутнага беларускага пласта на Віленшчыне. Усё астатняе — проста палітыка.

# Сяброўскія шаржы і эпіграмы Святланы МАРЧАНКА

## *Эдзі АГНЯЦВЕТ*

***Аз, букі, ведзі,***
***Піша вершы людзям Эдзі,***
***Каб дзяцей любілі, белы свет,***
***Дзіва-кветку агняцвет.***



## *Лілія ДАВІДОВІЧ*

***У Лілі талент і сыны свае,***
***Знаць, "Людзі на балоце" е.***



## *Зінаіда БАНДАРЭНКА*

***Артыстаў "табар", "банда".***
***Рэнта.***
***Авацый шквал не дзеліцца на грамы.***
***Тэлеканалы —***
***Годнасці аналы.***
***Вядучая праграмы —***
***Бандарэнка.***



## *Уладзімір МУЛЯВІН*

***Што б "Песняры" нам наспявалі,***
***Калі б не нота "ля"***
***У прозвішчы МуЛЯвін?!***



МІТРЭНГІ

# Ода локцю

Калі паслухаць медыкаў, дык локаць — гэта толькі тыльны бок локцевага сустава, які злучае і аб'ядноўвае косці пляча і перадплечча. У выніку сустаў павялічвае функцыянальныя магчымасці рукі — і толькі.

Між тым локаць — вельмі істотная частка цела. Яго нават немагчыма, хоць ён і блізка, у роспачы ўкусіць! Няўжо ён прызначаны толькі для задужа рухавых нявыхаваных людзей, каб абмяжоўваць іх дзеянні?! (Памятаеце, які імгненны "страляючы", пякучы боль адчувалі ў локці, калі ў абмежаванай прасторы давалі волю сваім рукам?)

Па асабістым вопыце ведаю, што гэта не так. Функцыі локцыя значна шырэйшыя. Напрыклад, што б вы рабілі раніцай, спяшаючыся на працу, перад уваходам у аўтобус, тралейбус ці вагон метрапоезда, калі б не скарысталі свае локцыі? Натуральна, засталіся б стаяць на прыпынку пакуль не скончыцца пікавы час.

А што б вы рабілі ў салонах гэтых транспартных сродкаў, калі б не пачалі працаваць тымі самымі локцямі? Зразумела, што ў лепшым выпадку адляцелі б да супрацьлеглых дзвярэй або аказаліся заціснутымі паміж парэнчамі і чыёйсьці спіной. А ўжо знайсці якое-небудзь месца, каб сесці, — зусім нядзейсненная мара!

Ну, а калі вам, нягледзячы ні на што, удалося сесці? Вы нават не зможаце ўздыхнуць, калі не ўспомніце пра свае локці. Вельмі верагодна, што тады вы ўбачыце перад сваім носам локаць суседа, які такім чынам недвухсэнсоўна папярэджвае аб замаху на яго жыццёвую прастору. Гэта прыйдзецца ўлічваць і рэагаваць адпаведна вашаму фізічнаму стану.

А ці можна рухацца ў натоўпе без локцяў?

Напэўна, можна, але толькі ў тым выпадку, калі вам не трэба нікуды спяшацца, нешта здабываць, прыдбаць, знайсці. У такім разе вам наогул непатрэбны вуліцы, магазіны, плошчы, розныя гандлёвыя кропкі і іншыя месцы зборышчаў і тусовак. У такім разе вы ўліліся ў кагорту закаранелых пенсіянераў, якія толькі замінаюць моладзі і сапраўдным, дзелавым зносінам і якім трэба часцей напамінаць пра іх абмежаванасць з-за няўмольнага згасання ўсіх чалавечых функцый.

А якое ўзнёслае пачуццё авалодвае вамі, калі ў тым жа цесным транспартным сродку, які тузаецца на кожным перакрыжаванні, адчуеце між сваіх лапатак рашучую падтрымку локця суседа!! Гэтае пачуццё вельмі блізкае да пачуцця салдата ў страі ці калоне, калегі па працы, з якім давялося перажыць агульны наганяй ад начальніка, напарніка па гульні ў дурня або іншай карцёжнай забаўцы і нават чалавека, які выратаваў сябра з бяды.

Адсюль наступныя высновы.

Локаць — зброя ўсіх працоўных для змагання за лепшае жыццё.

Локаць — сімвал таварыскасці, узаемнай падтрымкі і салідарнасці ўсіх працоўных.

Локаць — пагранічны слуп, адзнака межаў вашай жыццёвай прасторы і сведка вашага асабістага суверэнітэту.

Безумоўна, гэта толькі першыя відавочныя вызначэнні галоўных функцый локця. Справа вучоных медыкаў — высветліць і ўдакладніць астатнія, менш значныя функцыі і паведаміць пра іх грамадскасці.

**Генадзь ШЭРШАНЬ**

Марцін КОЎЗКІ

# Доля праўды

●

— Спявачка без голасу! — абураюцца гледачы. — Пацярпіце, — адказваюць філарманічныя дзеячы. — Запусцім на арбіту сваю Арбакайтэ, раскруцім — і якіх яшчэ грошай дачакаймо... Таленту спявачка як не мела, так не мае, а апладысменты ўжо зрывае.

●

З Карэла Чапека. Трэшчыну на сцяне спыталі, чым бы ёй хацелася стаць. "Найглыбейшай расколінай на марскім дне", — адказала трэшчына на сцяне.

●

Неабгрунтавана Койданава перайменавана. Калі Койданава — ад кайданы, дык і ад Дзяржынскага не цюльпаны.

●

Жанчына, якая надзела мужчынскія штаны, гэта ўжо іншая жанчына. Палітолагу здаецца, што яна глыбей спасцігае сутнасць падзей, каханай — што карыстаецца большай пашанай, маці — што праніклівей ставіцца да выхавання дзяцей. Калі так проста зрабіць жанчын шчаслівымі, не бачу прычын, каб не павялічыць вытворчасць мужчынскіх штаноў для жанчын. Ёсць, аднак, загана: "маланкі" мужчынскіх штаноў для жанчын не прадугледжаны планам.

●

Пра што сабака гаўкае: "Не бі барбоса палкаю, вучы істоту боскую пяшчотаю і косткаю".

●

Абураўся клубок: — Дзе вы бачылі ў мяне адваротны бок! Магу быць першым, а магу быць апошнім, правым краем і левым краем — у залежнасці ад таго, хто назірае. І наогул нашто тыя канверсіі таму, хто верціцца, нашто канстытуцыі таму, хто круціцца? Усе функцыі — фікцыі, уся юстыцыя — інструкцыі. А цяпер — убок, падаюся ў блок. Вазьму шлюб — і буду вялікі клуб!

●

— Што ты ганяеш кошку, барбос? — спыталі сабаку. — А чаго яна ўцякае ад мяне, — сказаў барбос. - Я на кошку вякаю, каб не перастаць быць сабакаю. А калі хто ідзе з палкаю, дык я ж на яго не гаўкаю.

●

Лічылася бясспрэчным, што Азгур — адмысловы партрэтыст. — У чым сакрэт папулярнасці вашых партрэтаў? — спытаў я Заіра Ісакавіча. — Сакрэтаў няма, трэба толькі, каб герой быў падобны да сябе больш за арыгінал. — Дык гэта ж ці не галоўны пастулат сацрэалізму. — А на чорта мне той сацрэалізм! — раззлаваўся скульптар. — Я мастацтва партрэта спасцігаў пальцамі, а тут нейкі тэарэтычны базіс падводзяць. Хай паспрабуюць зрабіць партрэт, дзе заказчык горшы за арыгінал, і хай тады гліну ядуць. Хай з гэтай гліны пулі адліваюць! Больш моцныя выразы майстра ў мемуары фіксаваць няма патрэбы.



*Фотажарт Аркадзя НІКАЛАЕВА*


ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА — ЛіМ — ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

ЗАСНАВАЛЬНІКІ

**Саюз беларускіх пісьменнікаў; рэдакцыя газеты "Літаратура і мастацтва"**

**ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА**

**Галоўны рэдактар Уладзімір НЯКЛЯЕЎ**

**РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:**
**Святлана БЕРАСЦЕНЬ,**
**Мікола ГІЛЬ** — *намеснік галоўнага рэдактара*
**Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ,**
**Жана ЛАШКЕВІЧ,**
**Алесь МАРЦІНОВІЧ,**
**Барыс ПЯТРОВІЧ** — *першы намеснік галоўнага рэдактара,*
**Юрась СВІРКА,**
**Віктар ШНІП** — *адказны сакратар*



**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
220005, Мінск, вул. Захарава, 19

**ТЭЛЕФОНЫ:**
прыёмная рэдакцыі — 2332-461
намеснікі галоўнага рэдактара — 2332-525, 2331-985
АДДЗЕЛЫ:
публіцыстыкі — 2332-525
пісьмаў і грамадскай думкі — 2331-985
літаратурнага жыцця — 2332-462
крытыкі і бібліяграфіі — 2331-985
паэзіі і прозы — 2332-204
музыкі — 2332-153
тэатра, кіно і тэлебачання — 2332-153
выяўленчага мастацтва, аховы помнікаў — 2332-462
навін — 2332-462
мастацкага афармлення — 2332-204
фотакарэспандэнт — 2332-462
бухгалтэрыя — 2682-667





**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку" (г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 77)

Індэкс 63856.
Наклад 4551
Нумар падпісаны ў друк 5.3.1998 г. у 17.30.
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 999
Заказ 1218/Г

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12